№ 1 (70)/ 2012-2013



# Беларускія Ведамасьці

Нью-Ёрк–Варшава 2012-2013 гг.

(Фота Зянона Пазьняка, 2012 г.)

*На здымку будынак былога Палацу прафсаюзаў у Вільні, дзе адбыўся 1-ы Устаноўчы Зьезд БНФ.*

## ПЕРАМОГА БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ІДЭІ

19-га кастрычніка 2013 года споўнілася 25 гадоў з часу ўтварэньня Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне“. З далечыні сёньняшняга дня добра відаць, што гэта была гістарычная падзея агульнанацыянальнага значэньня. У 1988 годзе на хвалі грамадзкага ўзбуджэньня ад адкрыцьця Курапатаў, якое прывяло ў рух народныя сілы, быў створаны агульнанародны рух супраць камунізму за адраджэньне нацыі, суверэнітэт і незалежнасьць Беларусі. У гэты час – час нацыянальна-вызвольнага змаганьня – адбылася гістарычная перамога Нацыянальнай ідэі – створана нарэшце незалежная Беларуская дзяржава, якая існуе і, нягледзячы на ўсе цяжкасьці і антынародную палітыку, аб‘ектыўна спрые гуртавньню і асэнсаваньню беларускай нацыі. Нацыянальная ідэя – гэта ёсьць культурна-гістарычная рэалізацыя нацыі ў незалежнай дзяржаве.

І беларускае грамадзтва, і нацыянальныя сілы, якія прывялі да Незалежнасьці Беларусі, былі, аднак, яшчэ недастаткова моцнымі супраць зьнешняй і ўнутраннай рэакцыі, каб адабраць уладу ў краіне. Улада засталася ў руках гэтай камуністычнай, антынацыянальнай, антыадраджэнскай рэакцыі, якая апанавала незалежную дзяржаву Беларусь. У межах гэтай дзяржавы па сёньняшні дзень працягваецца барацьба за выжываньне і станаўленьне нацыі, за ўладу ў незалежнай краіне.

Пройдзе шмат часу, прмінуць гады і зьменяцца пакаленьні, а гэтую дату, 19-га кастрычніка 1988 года, Беларусь будзе памятаць заўсёды, гэтак жа як 25-га Жніўня, 25-га Сакавіка і іншыя вялікія даты нашай гісторыі.

***Зянон Пазьняк***

## СТВАРЭНЬНЕ І ЗНАЧЭНЬНЕ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ Ў ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ

***(Да 25-годдзя ўтварэньня)***

Беларускі Народны Фронт – гэта народны рух і палітычная арганізацыя адначасна, якая змагалася ў Беларусі з камунізмам за дэмакратыю і неза-

лежнасьць краіны. Аргкамітэт Фронту быў утвораны 19 кастрычніка 1988 года. 24-25 чэрвеня 1989 года ў Вільні адбыўся Першы ўстаноўчы Зьезд БНФ. 25 жніўня 1991 года Народны Фронт дамогся рэальнай дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі і спыніў дзейнасьць КПСС-КПБ. Упершыню за 200 гадоў расейскай акупацыі Беларусь рэальна стала незалежнай дзяржавай. Камунізм як палітычная сістэма і ідэалёгія быў ліквідаваны. Але ўся структура дзяржаўнай улады засталася ў руках старой камуністычнай, і што істотна – прамаскоўскай каланіяльнай адміністрацыі. Гэта прадвызначыла далейшы ход падзей. Сілы былі несувымерныя, а грамадзкі ўздым пасьля фармальнай ліквідацыі КПСС пайшоў на спад.

Сытуацыя вымагае тлумачэньня для сучаснага малаінфармаванага чалавека, чаму ў 1991 годзе пасьля краху КПСС у Эстоніі, Латвіі і Летуве ўладу лёгка пераняў нацыянальныя сілы, а ў Беларусі і на Ўкраіне засталіся старыя каланіяльныя ўлады.

Адказ просты: таму што ў Прыбалтыйскіх савецкіх рэспубліках нацыянальныя сілы былі ва ўладзе пры камунізме, а ў Беларусі і на Ўкраіне – не.

У савецкай Беларусі нацыянальная адміністрацыя была вынішчана ў выніку рэпрэсіяў яшчэ ў 30-х гадах, усе беларускія школы ў гарадах зачыненыя, нацыянальная ідэя аб'яўлена буржуазнай і антысавецкай, а беларуская мова ў публічным ужываньні – праявай антысавецкага нацыяналізму.

У Беларусі не было нацыянал-камуністаў. На месца забітых прысылалі кадры з Расеі. Яны плюс кіроўныя партызаны НКВД, якія вайной вынішчалі беларусаў, а пасьля вайны пераняў усю ўладу ў Беларусі, стварылі тут атмасфэру нянавісьці да ўсяго беларускага. Уся камуністычна-савецкая адміністрацыя ў БССР была антынацыянальнай.

Менавіта правячая камуністычная партыя БССР была першым і галоўным ворагам беларускай незалежнасьці, мовы і культуры. Менавіта зь мясцовай камуністычнай адміністрацыяй найперш змагаўся не на жыцьцё, а на сьмерць за незалежнасьць, дэмакратыю і суверэнітэт Беларусі Беларускі Народны Фронт.

Кіруючыя камуністычныя партыі Прыбалтыйскіх савецкіх рэспублік не выступалі супраць суверэнітэту сваіх краінаў, далі магчымасьць вольна дзейнічаць Народным Франтам і шмат у чым нават спрыялі іхняе дзейнасьці. Незалежнасьць там не зьяўлялася унутраннай грамадзкай праблемай, а толькі пытаньнем часу.

Для таго каб нацыя рэалізавалася цалкам як культурная і дзяржаўна-гістарычная агульнасьць людзей, патрэбны пэрыяд яе дзяржаўна-культурнага станаўленьня. Гэта ў сярэднім 20 гадоў – адно пакаленьне. Пэрыяд дзяржаўнага незалежнага станаўленьня мелі ўсе нацыі, якія стварыліся ў XIX-XX стагоддзях. 22 гады прыбалтыйскай нацыянальна-дзяржаўнай незалежнасьці зрабілі гэтыя нацыі незьнішчальнымі. Сталінскія рэпрэсіі не падрэзалі іхняе нацыянальнае выжываньне, бо сьведамым быў ужо ня толькі нацыянальны авангард, але ўвесь народ, усё пакаленьне. Нацыянальнае прарастала натуральна нават у камуністычнай форме.

Беларусь ня мела пэрыяду незалежна-дзяржаўнага нацыянальнага станаўленьня. БНР была задушана ў зародку. Пад савецкай акупацыяй вырасла пакаленьне няпомнячых і няведаючых. І вось у такіх умовах нешматлікая нацыянальная эліта – Беларускі Народны Фронт – распачала барацьбу з камунізмам за волю і незалежнасьць краіны.

(У ацэнках зазначу, чаму я лічу Лукашэнку самым вялікім палітычным злачынцам у Беларускай гісторыі. Ён сьведама скалечыў маладосьць нацыі, сьведама ня даў ёй нацыянальна-культурна рэалізавацца ў дзяржаве, вырасьці, стаць на ногі. Каб направіць калецтва, спатрэбіцца яшчэ мінімум адно пакаленьне ў вольнай нацыянальнай Беларусі, а ў рэчаіснасьці – два).

Стварэньне і дзейнасьць Беларускага Народнага Фронту стала сапраўды ўнікальнай і адметнай старонкай у барацьбе за свабоду на ўсім абшары СССР.

Нагадаю становішча. У 1980-х гадах Савецкі Саюз зайшоў у фінансавы і эканамічны тупік. Крах быў непазьбежны. Ратуючыся, камуністы аб'явілі пра перабудову сістэмы, зьмякчылі цэнзуру і абвясьцілі галоснасьць, магчымасьць людзям удзельнічаць у выбарах. Грамадзтва прышло ў рух. У 1988 годзе ў Эстоніі ў асяроддзі нацыянальнай камуністычнай і творчай інтэлігенцыі ўзьнікла ідэя стварэньня Народнага Фронту – руху за дэмакратыю, свабоду і суверэнітэт.

Пасьля Эстоніі наступны Народны Фронт быў створаны ў Латвіі, потым у Летуве і, нарэшце, нечакана для Масквы і мясцовых камуністаў – у Беларусі.

Усе сілы каланіяльна-камуністычнай сістэмы ў Беларусі былі кінутыя на недапушчэньне зьяўленьня Народнага Фронту. Кіраўнікі КПБ урачыста паабяцалі ў Маскве, што ў Беларусі Народнага Фронту ня будзе. Выношваліся нават планы стварыць свой „народны фронт" зь ліку камуністаў, каб забегчы наперад і скампрамэтаваць ідэю.

Усё прышло ў рух пасьля адкрыцьця Курапатаў. Падзея перавярнула сьведамасьць грамадзтва, узьняла людзей да актыўнай пазыцыі. Беларускі народ засьведчыў, што ён духоўна жывы і яму не абыякавы лёс свайго мінулага і будучыні краіны.

Адкрыцьцё Курапатаў паўздзейнічала на становішча ва ўсім СССР. У Курапатах упершыню былі выяўлены рэальныя ўлікі генацыду беларускага народа, улікі, якія маглі стаць доказам у судзе над камунізмам. Камуністы ўспалашыліся, мабілізавалі свае сілы і… ўпершыню прайгралі. Нічога ім не дапамагло. Вымушаны былі прызнаць факт расстрэлаў нявінных людзей ворганамі НКВД. Гэта быў удар, ад якога КПСС ужо не паднялася, і першы цьвік у труну расейскага камунізму.

Пасьля адкрыцьця Курапатаў ідэя Народнага Фронту вісела ў паветры. Але арганізаваць яго фармальна было вельмі цяжка. Камуністы і агентура, як кажуць, сядзелі ў кожнага на карку. Небясьпеку ўяўлялі таксама розныя актыўныя балбатуны, якія пачалі зьбірацца ў розныя клубы, кшталту „Современник" і выступаць па-руску пра дэмакратыю ды эканоміку, абмяркоўваючы прачытанае ды пачутае, ды шкадуючы, што няма ў Беларусі яшчэ народнага фронта. Калі б такая дэмакратычна-касмапалітычная тусоўка выскачыла б, раптам, з заявай пра стварэньне народнага фронту, то ідэя была б спрафанаваная, а грамадзтва дэзарыентаванае.

Народны Фронт (як паказалі падзеі ў Прыбалтыцы) – гэта перш за ўсё нацыянальна-дэмакратычны рух за суверэнітэт і незалежнасьць краіны. Толькі на нацыянальнай ідэі можна было аб'яднаць нацыю на змаганьне за ідэалы свабоды і незалежнасьці. Любая прафанацыя (асабліва ў беларускіх умовах) магла б фатальна пашкодзіць справе.

Усё гэта змусіла прысьпешваць працу. Летам 1988 года ў Менску пад уплывам адкрыцьця Курапатаў была створана арганізацыйная група „Камітэт 58", якая пачала рыхтаваць дакументы і канфэрэнцыю па стварэньні арганізацыі „Мартыралог Беларусі". Тут рыхтаваўся той траянскі конь, на якім можна было ўехаць у Беларускі Народны Фронт. У „Камітэце 58", аднак, пра гэта ня ведаў ніхто. Інакш ідэя магла б не ажыцьцявіцца.

У кастрычніку мы (арганізацыйная група «Камітэту-58») рэзка прысьпешылі скліканьне ўстаноўчай канфэрэнцыі Мартыралога, бо была засьцярога, каб камуністы не скарысталі маргінальных дэмакратаў і не справакавалі прафанацыі ідэі Фронту.

Камуністы былі супраць арганізацыі Мартыралога. Нас падтрымаў Саюз Кінематаграфістаў і дазволіў правесьці канфэрэнцыю ў Доме Кіно (будынак касьцёла сьвятых Сымона і Алены, так званы „Чырвоны Касьцёл"). На сход мы запрасілі прадстаўнікоў Менгарсавета, Пракуратуры БССР, Міністэрства Ўнутраных Справаў і іншыя ўлады. Усе яны прышлі, каб даць нам бой. І далі бой, але прайгралі, бо нас было больш. Людзі зьехаліся з усёй Беларусі і прагаласавалі за Мартыралог.

І тут камуністычныя ўлады трапілі ў фатальную пастку, што выклікала потым паніку ў шэрагах іхняга начальства. Пасьля таго, як мяне абралі на старшыню Мартыралога, я паставіў пытаньне аб стварэньні Аргкамітэту Беларускага Народнага Фронту і аб ператварэньні дэлегатаў канфэрэнцыі ў арганізацыйны сход па стварэньні БНФ. Заля ўзарвалася ад воплескаў і грому энтузіязма. Прытым кожны меў права галасаваць (у тым ліку і запрошаныя камуністычныя начальнікі). Трэба было бачыць іхнія фізіяноміі. Яны ў большасьці не галасавалі, альбо галасавалі супраць і такім чынам супраць волі ўдзельнічалі ў стварэньні БНФ. Начальства і агентуры было больш за сто асобаў. Але гэта менш 1/3 дэлегатаў, і камуністы не маглі ўжо сарваць стварэньне БНФ, а іхны ўдзел засьведчыў унікальны дэмакратызм

сходу, калі ў стварэньні Фронту вымушана прынялі ўдзел нават яго ворагі (паўтаруся, хоць і супраць сваёй волі).

Праз два тыдні, 30-га кастрычніка 1988 года, у час масавага сьвяткаваньня „Дзядоў", камуністы вырашылі адпомсьціць Фронту за ганьбу і рагромнае паражэньне. Рыхтавалі крывавую лазьню кшталту Алма-Аты 1986 года з задумкай зваліць віну на Фронт і, абазваўшы ўсіх франтаўцаў фашыстамі, расправіцца і разграміць народны рух. Тады ўпершыню ўлады выкарысталі сьлезацечны газ, зьбілі шмат людзей. Але мы разгадалі злавесную задумку камуністаў. Пра гэта намі было гучна аб'яўлена з просьбай не паддавацца на правакацыю. І ніхто не паддаўся. Творчая інтэлігенцыя пасьля гэтых падзей адвярнулася ад камуністаў. Правакацыя ганеба правалілася, а водгульле яе пракацілася па ўсім СССР і мела вырашальнае значэньне для далейшых падзей у Савецкім Саюзе.

30-га кастрычніка 1988 года Беларускі Народны Фронт засьведчыў для ўсёй савецкай імпэрыі, што грубую камуністычную сілу можна перамагчы розумам і вытрымкай. Гэтая маральна-палітычная перамога БНФ была вызначальнай. Фронт стаў пашырацца па ўсёй Беларусі хуткімі крокамі.

Калі б жа беларусы не зразумелі тады планаў правакатараў і ўвязаліся ў бойку (унутраным войскам, як потым высьветлілася, былі раздадзеныя баявыя патроны), то камуністы патапілі б Менск у крыві, і кроў палілася б па ўсёй савецкай імпэрыі.

26 лютага 1990 года Беларускі Народны Фронт зноў паказаў прыклад змаганьня ўсяму Савецкаму Саюзу. На плошчы Незалежнасьці (тады – Леніна) БНФ сабраў масавы мітынг, больш за сто тысячаў людзей. На мітынгу было прынята рашэньне ісьці да будынка тэлебачаньня, браць будынак і выступіць у адкрытым эфіры з крытыкай камуністаў і зваротам да народу падтрымліваць Народны Фронт. Усё так і было зроблена спакойна, без штурханьня і зьняваг. Тэлебачаньне і ахова проста капітулявалі перад народам. 15 хвілін мы казалі ў эфір тое, што лічылі патрэбным казаць.

Дзьве гадзіны пасьля нашага эфіру вісела на экране нерухомая застаўка. Потым яна адчынілася і на экране ўсе ўбачылі членаў бюро ЦК КПБ, сакратароў ЦК, міністраў і т.п. – усіх 11 асобаў, якія сядзелі з разгубленымі тварамі і мямлілі свой камуністычны „адлуп".

У гэтым жа годзе 7-га лістапада Беларускі Народны Фронт арганізаваў і правёў першую ў СССР масавую антыкамуністычную дэманстрацыю. Трыццаць-сорак тысячаў дэманстрантаў ішлі па праспэкту і скандавалі „Далоў камунізм", а на плошчы Леніна скінулі пад ногі помніка галоўнаму злачынцу атрыбуты ленінскага камунізма.

У камуністаў БССР пасьля гэтага была зацяжная гістэрыка, а ў маскоўскіх уладаў ціхі стаўбун. Камунізм трашчэў. Беларускі Народны Фронт быў на вастрыі змаганьня з камунізмам ва ўсім СССР.

У Прыбалтыцы ў гэты час адбываліся масавыя акцыі Народных Франтоў за сувэрэнітэт без канфліктаў і сутыкненьняў, а ў Беларусі – пік антыкамуністычнай барацьбы. Тут кожны з нас разумеў, што не ліквідаваўшы антыбеларускі прарасейскі камунізм, аб незалежнасьці Беларусі ня можа быць і гаворкі. Камунізм і правячыя тут камуністы былі галоўнымі ворагамі незалежнасьці Беларусі.

Беларускаму Народнаму Фронту ўдалося зрабіць у Беларусі амаль што немагчымае – ліквідаваць камунізм і дамагчыся незалежнасьці краіны. Таму я часта паўтараю, што палітыка – гэта ёсьць мастацтва немагчымага.

Тыя надзвычаныя хвалюючыя дні змаганьня, асабліва, калі ў жніўні 1991-га мы дасягнулі Незалежнасьці, нібы сёньня стаяць у маіх вачах. І спадзяюся, у памяці маіх сяброў, якія яшчэ засталіся жыць. Кожны з нас тады адчуў і перажыў хвіліны незвычайнага шчасьця, якое ні з чым нельга параўнаць. І напэўна шмат хто з нас сабе падумаў, што дзеля гэтага, дзеля шчасьця дзяржаўнай Незалежнасьці Беларусі варта было жыць на сьвеце, якім бы цяжкім не сталася тое жыцьцё.

Мінула 25 гадоў калі быў створаны Беларускі Народны Фронт і запаліўся агонь свабоды. Іскры гэтага агню гараць і сьвецяць па сёньняшні дзень. І настане новы дзень, і прыдзе такі вызначальны час, калі з іскры Адраджэньня зноў узгарыцца полымя Волі і зашугае да неба. Набліжайма гэты дзень.

Жыве Беларусь! Слава героям!

*19 кастрычніка 2013 года.*

***Зянон Пазьняк***



***Мітынг БНФ. Менск, 1990 г.***

## АПЫТАНЬНЕ

Радыё Свабода задало пытаньне — **«У чым самая асноўная заслуга БНФ?»** — людзям, што стаялі ля вытокаў стварэньня БНФ: дэпутатам Вярхоўнага Савету 12 скліканьня Алегу Трусаву і Лявону Дзейку, мастакам Аляксею Марачкіну і Міколу Купаву, скульптару Гэніку Лойку.

**Алег Трусаў: «Незалежная Рэспубліка Беларусь — самая галоўная заслуга»**

«Што стварылася незалежная беларуская дзяржава. Незалежная Рэспубліка Беларусь — вось гэта самая галоўная заслуга. Астатняе ўсё — дробязі, бо ўсё астатняе выцякае з гэтага. Можна цэлы сьпіс са 100 ці 150 пунктаў скласьці. А ўсё астатняе — сёньня ёсьць, заўтра няма, яно цячэ скрозь пальцы, як вада ці пясок. А гэта вечнае. Тым больш што пры гэтай незалежнасьці ўжо цэлае пакаленьне вырасла. І гэтую незалежнасьць адабраць ня так проста, фактычна немагчыма ва ўмовах глябалізацыі».

**Мікола Купава: «БНФ заклаў асновы дэмакратыі ў Беларусі»**

«Самае галоўнае, што БНФ заклаў асновы дэмакратыі ў Беларусі, паколькі ў той час мы былі яшчэ ў СССР, і праз усе цяжкасьці прывёў краіну да незалежнасьці. Вынікі гэтай дзейнасьці — парлямэнцкая група ў Вярхоўным Савеце і вулічныя мерапрыемствы — зрабілі сваю справу, і ў 1991 годзе была абвешчана незалежнасьць Беларусі. Яна стала называцца палюдзку — Рэспубліка Беларусь, яна атрымала свае спрадвечныя сымбалі. Гэта БНФ, а ня хто іншы, прывёў да незалежнасьці краіну».

**Лявон Дзейка: «Фронт абудзіў Беларусь у самым шырокім сэнсе»**

«Фронт абудзіў Беларусь у самым шырокім сэнсе — у геаграфічным, у этнічным, у палітычным, у грамадзкім — проста абудзіў Беларусь і беларускі народ. Я лічу, што Фронт якраз зрабіў рэальнасьцю тое, пра што сама сабе думала вялікая колькасьць людзей у Беларусі, якія нешта чулі пра існаваньне іншых незалежных дзяржаваў, іншых незалежных народаў, для тых людзей, якія вырасьлі і сталелі ў часы Савецкага Саюзу і былі, так бы мовіць, шчырымі савецкімі людзьмі. Яны былі добрымі людзьмі, але адчувалі нешта ня тое ў сваім самавызначэньні. І вось мне здаецца, тое, што Фронт пачаў весьці такую дзейнасьць — асьветніцкую, прапагандысцкую — гэта самае галоўнае».

**Алесь Марачкін: «Гэта было абуджэньне і адраджэньне»**

«Тут ня будзе перабольшваньняў, калі браць Беларускі Народны Фронт не ізалявана ад тых працэсаў, якія адбыліся на прасторы былога Савецкага Саюзу. Напачатку гэта была Эстонія, Латвія, Літва, пасьля Грузія, Украіна — там таксама былі такія рухі, народныя франты. То і Беларусь не была ўбаку, яна была ў найноўшай гісторыі ў гэты пэрыяд вясны народаў. Гэта было абуджэньне і адраджэньне. Нельга так гаварыць, што на нас незалежнасьць звалілася, як хтосьці напісаў, як мяшок бульбы на галаву. Нічога падобнага. Інтэлігенцыя, людзі сьвядомыя, настроеныя дэмакратычна, настроеныя на незалежнасьць, на адстойваньне сваіх гістарычных і нацыянальных сымбаляў — яны былі гатовыя».

**Гэнік Лойка: «БНФ абудзіў нацыянальныя каштоўнасьці ў беларусаў»**

«Я як нацыяналіст лічу, што самая вялікая каштоўнасьць у тым, што дзякуючы БНФ у нацыі адрадзіўся нацыяналізм. Бо гэта ёсьць аснова для любога грамадзкага руху. Толькі дзякуючы нацыяналізму нацыя становіцца на свае ногі, і далей ужо могуць разьвівацца і лібэралізмы, і сацыялізмы ўсялякія. А самае асноўнае — гэта нацыяналізм, нацыянальныя каштоўнасьці, якія адрадзіў, абудзіў Беларускі Народны Фронт. Вось у гэтым яго заслуга. Адпаведна, і незалежнасьць мы атрымалі такім чынам, дзякуючы гэтым ідэям, і будуем сваю краіну. У той час ніхто, акрамя Беларускага Народнага Фронту, ня верыў, што беларусы могуць мець сваю незалежную дзяржаву».

***(Радыё Свабода 18 кастрычніка 2013 г.)***
http://www.svaboda.org/content/article/25141206.html

## СЬВЯТКАВАНЬНЕ 25 УГОДКАЎ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ

18 кастрычніка ў залі канцэрна „Амкадор" у Менску адбыліся сьвяточныя мерапрыемствы, прымеркаваныя да 25-х угодкаў утварэньня Беларускага Народнага Фронту. На сьвята сабралося каля 200 асобаў: пачынальнікі народнага рушаньня, сябры Аргкамітэту БНФ 1988-га года, дэпутаты Вярхоўнага Савета Беларусі 12-га скліканьня, фронтаўцы розных пакаленьняў з сем'ямі, патрыятычная моладзь. Прысутнічалі госьці, а таксама прадстаўнікі дыпламатыі Славакіі і ЗША. Панавала сьветлая, радасная атмасфэра народнага сьвята. Залю ўпрыгожвалі нацыянальныя Бел-Чырвона-Белыя Сьцягі.

Вечарына распачалася з дэкламаваньня верша сябра БНФ і КХП-БНФ Народнага Паэта Беларусі Рыгора Барадуліна, прысьвечанага юбілею Фронта. Потым прысутныя засьпявалі Беларускі гімн „Магутны Божа". Хвілінай маўчаньня людзі ўшанавалі памяць адраджэнцаў-фронтаўцаў, зь якімі прайшлі шляхам змаганьня і якіх ужо няма з намі.

Быў зачытаны прывітальны зварот сп. Зянона Пазьняка, Старшыні Беларускага Народнага Фронту „Адраджэньне" і Кансэрватыўна-Хрысьціянскай Партыі — БНФ „Стварэньне і значэньне Беларускага Народнага Фронту ў гісторыі Беларусі" (публікуецца).

У сьвяточнай атмасфэры людзі дзяліліся сваімі ўспамінамі пра мінулыя гады. Сп. Юры Беленькі ўзгадаў асноўныя этапы фронтаўскага рушаньня. Беларускі Народны Фронт пад кіраўніцтвам Зянона Пазьняка забясьпечыў мірны працэс ліквідацыі камунізма і савецкай акупацыі ў Беларусі. Гэтыя дзеяньні былі прыкладам для народных рухаў усяго СССР. Нягледзячы на правакацыі з боку варожых Беларусі сілаў Фронт працягвае гэтую лінію сваёй палітыкі. Фронтаўцы абапіраюцца ў сваёй палітычнай, грамадзкай і асьветніцкай дзейнасьці на нашыя нацыянальныя традыцыі міралюбнасьці, пачуцьця справядлівасьці і павагі да чалавечай годнасьці. 25 гадоў змаганьня за Беларусь зьяўляюца яркім этапам у нашай нацыянальнай і ўсёй эўрапейскай гісторыі. Нашае змаганьне прывядзе да канчатковага вызваленьня і адбудовы дэмакратычнай, цывілізаванай Беларусі.

Юры Беленькі рапавёў пра час, калі сябры БНФ зьяўляліся дэпутатамі Вярхоўнага Савету Беларусі: «Я памятаю, як мы, маладыя дэпутаты, якім было трохі за 30 гадоў, натхніліся Зянонам Пазьняком, якому тады было 44 гады. Ён даў нам веру, што Беларусь будзе незалежнай. Ён казаў, што Беларусь ідзе да незалежнасьці, а мы павінныя распрацаваць прававую базу. Я, напрыклад, быў адказны за дакумэнты па банкаўскай сыстэме. Лявон Баршчэўскі распрацаваў закон аб грамадзянстве. Мы сур'ёзна верылі ў тое, што рабілі. Калі б не было гэтай веры, нічога б не адбылося. Мы — пакаленьне пераможцаў. Мы ведаем смак перамогі. І нас было шмат, бо Фронт — гэта ня толькі тыя, хто меў партыйнае пасьведчаньне, Фронт — гэта ўсе тыя, хто хоць раз прыйшоў на мітынг. А такіх было сотні тысячаў».

Па ініцыятыве Юры Беленькага ўдзельнікі сьвяткаваньня прынялі рашэньне зьвярнуцца да неабходных асобаў і арганізацыяў з прапановай аб намінацыі Зянона Пазьняка на нобэлеўскую прэмію міру. Прагаласавалі адзінагалосна.

Падзяліліся ўспамінамі пра гісторыю Фронта акадэмік АН Беларусі сп. Радзім Гарэцкі, знакаміты паэт Генадзь Бураўкін, выдатны мастак Аляксей Марачкін, дэпутаты Вярхоўнага Савета 12-га скліканьня, лідэр рабочага руху сп. Сяргей Антончык і намесьнік старшыні БНФ і КХП-БНФ Сяргей Папкоў, а таксама іншыя удзельнікі сьвяткаваньня.

Акадэмік Радзім Гарэцкі сказаў пра пачатак дзейнасьці народнага руху, у якім ён браў актыўны ўдзел: «Тая хваля была вельмі кароткай, менш за 10 гадоў, але яна была вельмі яркай і распачала незалежнасьць Беларусі. Гэта цуд, што ўзьнік такі рэвалюцыйны час. Я перакананы, што справы, якія рабіў БНФ, упішуцца ў гісторыю навечна».

Адбыўся сьвяточны канцэрт. Дзяўчаты ў народных беларускіх строях выканалі творы аўтэнтычнага нацыянальнага песеннага фальклёра. Выдатная сьпявачка Тацьцяна Матафонава з сынам парадавалі патрыятычнымі і лірычнымі сьпевамі.

На прыканцы людзі сабраліся за сталамі з кавай, гарбатай і пачастункам. Усе прызнаваліся, што ў коле сяброў і аднадумцаў жыве дух вольнай, прыўкраснай Беларусі.

***Валеры Буйвал***

## БЕЛАРУСКІ НАРОДНЫ ФРОНТ СЬВЯТКУЕ 25 ГАДОЎ ГІСТАРЫЧНЫМ АРГКАМІТЭТАМ

У мастацкай майстэрні на вуліцы Старажоўскай у Менску закончылася ўрачыстае сьвяткаваньне 25-годзьдзя БНФ. Удзельнічалі бальшыня сябраў таго самага гістарычнага Аргкамітэту 1988 году.

Сярод іншых, выступілі Аляксей Марачкін, Мікола Купава, Вінцук Вячорка і Юрась Беленькі, Валянцін Голубеў і Лявон Баршчэўскі, Пятро Садоўскі і Алег Трусаў, гісторыкі Валянцін Мазец і Уладзімер Ляхоўскі.

У сьвяткаваньня ўдзельнічалі прыхільнікі розных плыняў БНФ: як Зянона Пазьняка, так і Баршчэўскага і Вячоркі.

Адась Матафонаў і Тацяна Матафонава-Грыневіч выканалі песьні на словы Сержука Сокалава-Воюша і Зянона Пазьняка.

Лявон Баршчэўскі падсумаваў у інтэрвію Радыё Свабода вынікі сьвяткаваньня:

„Я лічу, гэта было аўтэнтычнае сьвяткаваньне. Сабраліся і выступілі менавіта сябры першага Аргкамітэту, якія вялі рэй у 1988 годзе. Іх выступы былі самыя яркія, гэта былі выступы, ня толькі зьвернутыя ў мінуўшчыну, але і будучыню. Казалі пра ідэалы БНФ, пра тое, як, нягледзячы на ўсе неспрыяльныя ўмовы, важна даходзіць да людзей і да народу. Сустрэча і выступы паказалі што ня трэба шукаць сякеру пад лавай. Тое, што прыдумана ў 1988 годзе, на 90 працэнтаў актуальнае і зараз. Гэта пакінула вельмі прыемнае ўражаньне“.

*19 кастрычніка 2013 г.*

***(Паводле радыё Свабода)***



***У залі сьвяткаваньня 25-годдзя БНФ у Менску 18 кастрычніка.***

## ПАДЗЕЯ АГУЛЬНАНАРОДНАГА ЗНАЧЭНЬНЯ

***(Да 25-й гадавіны Беларускага Народнага Фронта)***

19 кастрычніка 1988 года – знамянальны дзень у беларускай гісторыі, дзень, які зьмяніў яе ходу. Гэта дзень утварэньня Беларускага Народнага Фронта „Адраджэньне".

Сёлета (2013 г.) 25-я ўгодкі Фронта адзначылі ўсе беларусы, якім дарагая нашая Бацькаўшчына, яе будучыня, яе незалежнасьць.

Беларусы, якія знаходзяцца ў Нью-Ёрку, сьвяткавалі гэтую падзею 3-га лістапада ў грамадзкай залі Сабору імя Св. Кірылы Тураўскага. Сьвяточная заля, упрыгожаная беларускімі нацыянальнымі сымваламі і выстава „Беларускаму Народнаму Фронту – 25 год!" – сьведчаньне нашага нацыянальнага імкненьня да чысьціні і прыгажосьці, а ў сьвяты – да ўрачыстасьці. Таму пачалася імпрэза з узьнёслага гімну Народнага Фронта (аўтарства С. Сокалава-Воюша):

Айчына, сьветлы вобраз твой
Нязьменны наш маяк.
Хай цемра ладзіць нам канвой,
Я добра бачу, як працяг суседняга плача
Жыве ў маім плячы.
І людажэрам-крумкачам нас не перамагчы!
Фронт, Фронт, Фронт!
Ён маё і тваё абуджэньне,
Ён народу майго Адраджэньне,
Фронт, Фронт, Фронт!

Для нас, удзельнакаў мінулых вялікіх падзеяў, прыемна было ўспомніць часы, калі мы ўсе змагаліся супраць камунізму за беларускую незалежнасьць; для маладзейшых беларусаў цікава было пачуць і даведацца пра шмат якія факты з нашай найноўшай гісторыі, з гісторыі Народнага Фронту.

***Айцец Леанід (Акаловіч)*** прачытаў малітву ў памяць адышоўшых змагароў Народнага Фронту – Васіля Быкава, Міхася Дубянецкага, Ігара Германчука, Галіны Сямдзянавай, Яўгена Куліка і іншых вялікіх нашых людзей, – і імпрэза пачалася.



***Дэпутаты Незалежнасьці (Апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце 12-га скліканьня) на сьвяткаваньні 25-годдзя БНФ. Зь лева на права: Валенцін Голубеў, Лявон Барщчэўскі, Віктар Алампіеў, Юры Беленькі, Лявон Дзейка, Сяргей Папкоў.***

У сваім уступным слове старшыня Бруклінскага аддзелу БАЗА ***Тацьцяна Красоўская*** падкрэсьліла вялікую ролю БНФ „Адраджэньне", які ўпершыню за 200 гадоў расейскай акупацыі дамогся рэальнай дзяржаўнай незалежнасьці, нягледзячы на велізарныя цяжкасьці ў сваім змаганьні. Гэта было зьвязана з тым, што на Беларусі не было нацыянал-камуністаў. На месцы зьнішчаных нацыянальных кадраў падчас рэпрэсіяў Масква прысылала свае, з Расеі. Яны і стварылі тут атмасфэру непрыняцьця, грэблівых адносінаў да ўсяго беларускага.

"Роля, якую ўзяў на сябе Народны Фронт, – казала сп. Красоўская, – гэта роля выратаваньня Беларускай нацыі і аднаўленьня Беларускай дзяржаўнасьці, свабоды і дэмакратыі. За часы СССР беларускі народ быў культурна прыгнечаны. Народ ня ведаў сваёй вялікай гісторыі (пры камуністах гісторыя Беларусі пачыналася з 1917 года), беларуская мова была зьнішчана ў гарадах (дзе пражывала 80 адсоткаў беларусаў), эканоміка была каляніяльнай (амаль палову свайго нацыянальнага прыбытку Беларусь, як даніну, аддавала Маскве), народ Беларусі ў складзе імпэрыі не валодаў сваёй тэрыторыяй, прыроднымі багацьцямі, вытворчымі рэсурсамі і г. д. Вялікія задачы, якія паставіў перад сабой Народны Фронт, ён выканаў выдатна, і ў вельмі складаных умовах дамогся найбольшых вынікаў, якія былі магчымыя – незалежнасьці нашай Бацькаўшчыны. Вялікую ролю ў гэтым змаганьні адыграў Зянон Пазьняк."

***Айцец Леанід*** – удзельнік тых падзеяў – падкрэсьліў значэньне той тактыкі змаганьня, якую выбраў Народны Фронт. Першая яго акцыя ***„Дзяды"*** – была важнай у адраджэньні нашай беларускай традыцыі, і сталася вельмі правільнай тактыкай змаганьня: яна не правакавала праліцьцё крыві і насільля (што здарылася ў Тбілісі ды Вільні), а наадварот, была ськівавана на тое, каб аб'яднаць народ, сьвяткуючы Дзень задушны.

"*Дзяды*, – адзначыў айцец Леанід, – гэта наша мінулае і наша будучае. Дзякуючы Народнаму Фронту, гэтае сьвята стала ня проста сямейна-родавым сьвятам, а ператварылася ў зьяву больш шырокую, нацыянальную, грамадзкую. Народны Фронт зрабіў *Дзяды* сакральным сьвятам беларусаў. Гэты дзень стаўся Днём памяці тых, хто загінуў ад НКВД, ад сталінізму, які зьнішчаў лепшых: інтэлігенцыю, працавітых сялян і рабочых, астатніх жа (праз страх) ператвараў у нявольнікаў. Хто не згаджаўся – расстрэльвалі.

Фронт дапамог аднавіць традыцыю і ўваскрасіць памяць пра бязьвінныя ахвяры сталінізму. Дзякуючы адкрыцьцю Курапатаў, паступова сталі вядомыя і іншыя таямніцы сталінізму. Зараз ўжо існуе Народны Мэмарыял – Курапаты. Тут паўсталі Крыжы і агульныя, і канкрэтныя, з прозьвішчамі загіблых людзей.

Адкрыўшы Курапаты, Зянон Пазьняк, навукова даказаў, што за саветамі адбываўся генацыд беларускага народа. Гэта ўскалыхнула людзей, абудзіла яго на змаганьне супраць камунізму.

Нягледзячы на жаданьне камуністычнага рэжыму расправіцца з Народным Фронтам падчас гэтага масавага сьвята на Маскоўскіх могілках Менска і праліць беларускую кроў 30 кастрычніка 1988 г., кіраўнік БНФ Зянон Пазьняк папярэдзіў людзей, заклікаў не адказваць на правакацыю ўлады, не ўвязвацца ў бойку, і павёў людзей праз поле на Курапаты. Там, у полі, упершыню быў падняты Бел-Чырвона-Белы сьцяг."

***Ганна Сурмач*** – удзельніца сходу, на якім быў утвораны Аргкамітэт БНФ, – успамінала пра сакрэтнасьць, у якой ішла падрыхтоўка да сходу



*Сьвяткаваньне 25-годдзя БНФ у Нью-Ёрку: Слухачы ў залі (фрагмэнт).*

19 кастрычніка 1988 г. (запрашэньне на сход па ўтварэньні Мартыралёга Беларусі ёй прынесьлі літаральна за дзьве гадзіны да пачатку). Спадарыня Сурмач казала пра ўтварэньне БНФ як аб падзеі агульнанацыянальнай, пра значэньне БНФ як агульнанароднага руху.

“Беларуская нацыянальная ідэя за часы савецкай імпэрыі як бы ляжала пад спудам. Арганізацыя Народнага Фронту дазволіла ўсім (падкрэсьліла спадарыня Ганна), для каго яна была важнай, – дзейнічаць. Усе, хто быў духоўна падрыхтаваны, былі з Народным Фронтам. Таму гэта быў сапраўды народны рух.”

Спадарыня Сурмач успомніла першы Ўстаноўчы зьезд БНФ „Адраджэньне”, правесьці які ў Беларусі ўлады не дазволілі і які адбыўся ў Вільні: „Нашыя летувісцкія сябры прынялі нас вельмі добра, прадставілі вялікае памяшканьне для нашага зьезду, і ён прайшоў урачыста. Заля была перапоўнена дэлегатамі і гасьцямі Зьезду. Адчувалася адзінства і агульнае узрушэньне. На Беларусь мы вярталіся з узьнёслым настроем, акрылённыя адбыўшыміся падзеямі”.

Прааналізаваўшы сытуацыю ў Беларусі за часы камуністычнага панаваньня і параўнаўшы яе з сытуацыяй у іншых савецкіх рэспубліках, ***Галіна Пазьняк*** абмалявала тыя цяжкія ўмовы, у якіх вырастала беларускае Адраджэньне (калі здэнацыяналізаванаму насельніцтву беларусаў трэба было цярпліва тлумачыць, чаму неабходна адраджаць нашую беларускую мову, чаму неабходна дамагацца незалежнасьці і свабоды). З цікавасьцю аўдыторыя слухала яе ўспаміны пра першыя франтаўскія мітынгі:

**масавы мітынг на стадыёне „Дынама” у Менску** *(19 лютага 1989 г.)*;

**100-тысячны перадвыбарчы мітынг** *26 лютага 1990 г.* (калі плошча прыняла рэзалюцыю патрабаваць простага эфіру на тэлебачаньні для прадстаўнікоў Народнага Фронту, каб растлумачыць мэты і задачы народнага руха);

**Чарнобыльскі Шлях** (*30 верасьня 1990 г.*), які стаўся ўсебеларускай акцыяй пратэста супраць засакрэчваньня вынікаў Чарнобыльскай катастрофы;

**першую антыкамуністычную дэманстрацыю** *7 лістапада 1990 г.*, калі адбыўся сымвалічны акт – вяртаньне камуністычнаму ідалу Леніну „дароў” камунізма: пудзіла НКВД, ГУЛАГа, адзеньне палітвязьняў, вісельні, наручнікі і іншыя атрыбуты НКВД.

“Палымяныя і зьмястоўныя прамовы лідараў Фронту на масавых акцыях, – казала Галіна Пазьняк, – дапамагалі людзям асэнсаваць неабходнасьць барацьбы за незалежнасьць як адзінае выйсьце і ратаваньне нацыі ад зьнікненьня з мапы гісторыі. І якім бы сёньня ні было цяжкім нашае змаганьне з прамаскоўскім рэжымам Лукашэнкі на Беларусі, мы мусім працягваць нашую барацьбу, калі нам дарагая нашая сьвятая Бацькаўшчына.”

Гаворачы пра значэньне Беларускага Народнага Фронта ў беларускай гісторыі, выступоўцы адзначылі вялікую і рашаючую ролю Зянона Пазьняка як кіраўніка арганізацыі, як сапраўднага нацыянальнага лідэра ў барацьбе за сьветлую будучыню Беларусі. Прысутныя пагадзіліся, што ўтварэньне БНФ – падзея агульнанацыянальная.

Падчас сьвяточнай імпрэзы зачытваліся ўрыўкі з успамінаў Зянона Пазьняка „Курапаты. 10 гадоў пасьля”, дэманстраваліся фатаграфіі тых падзеяў і фільм пра візыт прэзыдэнта Злучаных Штатаў Амэрыкі Біла Клінтана ў Беларусь у 1994 годзе, пра яго наведваньне Курапатаў.

Атрымалася добрае сьвята. Усе прысутныя прышлі на імпрэзу з добрымі сэрцамі і зацікаўленьнем удзельнічалі ў імпрэзе.

Як добра, калі ўсюды – у хаце, у грамадзкай залі, на сустрэчы – зьбіраюцца свае, блізкія людзі – беларусы, якія жывуць Бацькаўшчынай.

***Марыля Якушэвіч***

## ДЗЯДЫ І 25-Я ЎГОДКІ БНФ Ў КАНАДЗЕ

3-га лістапада 2013 года ў Беларускім Грамадзка-Рэлігійным Цэнтары Таронта адбылося сьвяткаваньне Дзядоў. Пасьля Богаслужбы, праведзенай у царкве Сьвятога Кірылы Тураўскага пад кіраўніцтвам Першаярарха БАПЦ архіяпіскапа Сьвятаслава, у актавай залі Цэнтару адбыўся сход беларускае грамадзкасьці з нагоды 25-й гадавіны БНФ і падзеяў 1988 году ў Беларусі.




*Сьвяткаваньне 25-годдзя БНФ у Таронта. Выступае Алесь Кот.*




*Сьвяткаваньне 25-годдзя БНФ у Таронта. Выступае Галіна Сяргеева.*

З расповедам на тэму **„Курапаты - Беларускі Народны Фронт - Незалежнасьць”** выступіў сакратар Парафіяльнае Рады Алесь Кот. Прамоўца высьветліў напружаньне барацьбы за адкрыцьцё для беларускай і сусьветнай грамадзкасьці праўды пра Курапаты і супрацьстаяньне падчас стварэньня Аргкамітэту БНФ на сходзе ў Чырвоным касьцёле 19 кастрычніка, і асабліва, драматызм сытуацыі на Дзяды 30 кастрычніка, калі беларусы сутыкнуліся з сілавой машынай прамаскоўскай камуністычнай сыстэмы і атрымалі над ёй маральна-псіхалагічную перамогу.

Адзначана роля Васіля Быкава і Зянона Пазьняка ў распачынаньні народнага руху за Адраджэньне і Незалежнасьць Беларусі. Таксама узгадана пра наведваньне Курапатаў у 1994 годзе прэзідэнтам ЗША Білам Клінтанам і ягонай сустрэчы са Старшынём БНФ Зянонам Пазьняком, пра абарону Народнага Мемарыялу сябрамі КХП-БНФ сёньня.

Кандыдат гістарычных навук Галіна Сяргеева (у мінулым Старшы навуковы супрацоўнік Інстытуту гісторыі Акадэміі навук Беларусі) спынілася на выніках і гістарычным вызначэньні дзейнасьці Беларускага Народнага Фронту ''Адраджэньне'', на палітычных дасягненьнях першае рэальнае апазыцыі той таталітарнай сістэме ўлады, што панавала ў Беларусі за Саветамі і, фактычна, у змененым выглядзе працягвае сваё панаваньне па сёньняшні дзень, мімікруючы ў форму аднаасобнае дыктатуры.

Удзельнікам сходу былі прадэманстраваныя некаторыя дакументы тых часоў, прэзэнтаваны шэраг кніг выдавецтва ''Беларускія Ведамасьці'', Варшава - Нью Ёрк - Вільня. Кожны прысутны атрымаў копію артыкула Зянона Пазьняка і Аўгена Шмыгалёва ''Курапаты - дарога сьмерці''. Ізноў сталася агучанай неабходнасьць не забывацца пра гісторыю Бацькаўшчыны, раз за разам узгадваць пра яе вызначальныя этапы, падзеі, асобаў, бо калі праўду не казаць, праўда зьнікне.

***Алесь Кот***

# «УПЕРШЫНЮ ЗА 200 ГАДОЎ АКУПАЦЫІ НАРОДНЫ РУХ ПРЫВЁЎ ДА ПЕРАМОГІ»

Інтэрв'ю з Зянонам Пазьняком. Аўтар інтэрв'ю Віталь Цыганкоў

**«БНФ быў сапраўдным народным рухам»**

**Цыганкоў: Якое значэньне мела ўтварэньне БНФ для беларускай гісторыі, для набыцьця краінай незалежнасьці? Як вам бачыцца роля БНФ цяпер, праз 25 гадоў?**

**Пазьняк:** Стварэньне Беларускага Народнага Фронту было і заканамернай, і адметнай зьявай у нашай гісторыі. Заканамернай — таму што змаганьне за волю і Беларусь не спынялася ніколі за часы акупацыі. Калі не шугала полымя, то тлелі іскры. Але народ ніколі ня быў мёртвым.

Адметнай — таму што ўпершыню за 200 гадоў акупацыі гэты народны рух прывёў да перамогі. Была здабыта рэальная незалежнасьць, створаная рэальная беларуская дзяржава, суб'ект міжнароднага права з усімі атрыбутамі незалежнасьці, унутранай і міжнароднай палітыкі і прызнаньня ў сьвеце.

Кажучы пра адметнасьць, дадам, што народны рух у БССР узьнік і быў арганізаваны тады даволі хутка. Штуршком для паскарэньня паслужыла адкрыцьцё Курапатаў (чэрвень 1988-га) і ганебная параза камуністаў 30 кастрычніка 1988-га году на Дзяды (правал рэпрэсіўнай правакацыі супраць БНФ). Курапаты (калі беларусы даведаліся пра камуністычны генацыд) былі для грамадзтва як выбух атамнай бомбы. Ён падштурхнуў людзей да актыўнай пазыцыі.

24-25 чэрвеня 1989 года, калі адбыўся Першы Ўстаноўчы зьезд БНФ Адраджэньне, Фронт уяўляў ужо масавы агульнабеларускі рух, у якім бралі ўдзел дзясяткі тысяч чалавек. Было створана ўжо 500 фронтаўскіх арганізацыяў, а ў першы Сойм (55 асобаў) увайшлі таксама беларусы з Вільні, Беластока, Рыгі, Таліна, Масквы. Стваралася лавіна, якая ішла па перамогу і здабыла яе.

БНФ быў сапраўдным народным рухам з сур'ёзным прадстаўніцтвам усім сацыяльных і нацыянальных пластоў насельніцтва, аб'яднаных беларускай нацыянальнай ідэяй і імкненьнем да дэмакратыі. Сярэдні і асноўны ўзрост сяброў БНФ — 40-45 гадоў. Гэта тыя людзі, на якіх трымаецца грамадзтва, сям'я і вытворчасьць. Гэта рэальная грамадзкая сіла. Асноўны адукацыйны ўзровень БНФ — вышэйшы. Асноўная прафэсія — навуковыя і інжэнэрна-тэхнічныя працаўнікі. Далей ішлі творчыя працаўнікі, рабочыя, выкладчыкі, настаўнікі і г.д.

Пра цяперашнюю ролю БНФ. У 1999-ым годзе Народны Фронт быў расколаты, і фактычна, паралізаваны ў выніку аб'яднанай палітыкі рэжымнай улады, КГБ, Лубянкі і Бэрліну. Прытым заходні чыньнік згуляў вырашальную ролю. Рэжым (а раней камуністы і КГБ) у барацьбе з намі ставілі на ўладу і агентуру.

Існуюць дзьве партыі БНФ. Адна ўдзельнічае ў палітычных мерапрыемствах, праектах і сцэнарыях антыбеларускага рэжыму, нясучы паразу за паразай.

Мы навучыліся з гэтым змагацца яшчэ ў 80-х. Захад жа ставіў на грошы («халяву»), на дэмакратычную дэмагогію і палітычны турызм. Гэтая зброя аказалася фатальнай для часткі нашага зьбяднелага грамадзтва. Фронт раскалолі і дабівалі па частках.

Рэальнага шырокага народнага руху БНФ цяпер не існуе. Але ёсьць фронтаўскія ідэі Адраджэньня і фармальная арганізацыя руху. Існуюць дзьве партыі БНФ. Адна ўдзельнічае ў палітычных мерапрыемствах, праектах і сцэнарыях антыбеларускага рэжыму, нясучы паразу за паразай. Другая (КХП БНФ) не ўдзельнічае ў палітычных маніпуляцыях антыдэмакратычнай улады і працуе на будучыню краіны, робячы чарнавую працу, якая спрыяе перамене асяродзьдзя. Будучыня можа быць толькі нацыянальнай, толькі беларускай. Іншай будучыні ў Беларусі няма.

**«Палітыка — гэта воля і сіла»**

**Цыганкоў: У канцы 80-х БНФ быў агульнадэмакратычным масавым рухам, куды ўваходзілі самыя розныя людзі, часам з рознымі перакананьнямі. Далей адбылася фрагмэнтацыя палітычнага поля, стваралі́ся новыя партыі з даволі строгай ідэйнай накіраванасьцю — кансэрватыўныя, лібэральныя, сацыял-дэмакратычныя. Роля Фронту адпаведна зьменшылася. Ці было гэта аб'ектыўным і неабходным працэсам альбо гэта аслабіла Фронт і ягоны ўплыў на грамадзтва?**

**Пазьняк:** У рэальнасьці ўсё выглядалі інакш, чым у той агульна-вучэбнай мёртвай схеме, якую вы толькі што працытавалі.

У БНФ уваходзілі людзі, якія прымалі Статут і Праграму БНФ і беларускія адраджэнскія каштоўнасьці. Яны мелі часам розныя погляды і думкі, але не «перакананьні». Тыя, што ўскочылі з «рознымі перакананьнямі» — хутка адышлі. А што спрабаваў шкодзіць, быў выдалены. У сэнсе праграмы і палітыкі, у Фронце было поўнае адзінства і добрая кіруемасьць (гэта значыць, кожны рабіў тое, што вырашылі, а ня тое, што хоча). У Вярхоўным Савеце, напрыклад, камуністы адкрыта зайздросьцілі нашай дысцыпліне і арганізаванасьці.

Аб партыях. У пачатку 90-х, змагаючыся з Фронтам, КГБ стварыў шэраг партыяў: некалькі «хрысьціянскіх», так званую «нацыянал-дэмакратычную» ды іншыя. Утвораныя ў гэты час малыя партыі былі інфільтраваныя агентурай. Усе гэтыя партыі і арганізацыі адразу пачалі лямант аб патрэбе аб'яднаньня «ўсіх дэмакратычных сілаў». Гэта клясічны прыём усіх спэцслужбаў у змаганьні з моцнай народнай ці рэвалюцыйнай палітычнай сілай (выкарыстоўвалі такое і за царом, і бальшавікі, і палякі). Нам гэтая азбука была вядомай, а «лямант» дапамог хутчэй выявіць агентуру ў Фронце (яна адразу выявілася «за аб'яднаньне»).

Пасьля расколу Фронту ўсе малыя партыі (уключна з новакамуністамі) ўзьняліся пры дапамозе Захаду і стварылі гэтак званую «аб'яднаную апазыцыю», маразм якой грамадзтва назірае па сёньняшні дзень

Адзіную партыю, якую стварыў БНФ (спэцыяльна выдзелілі дзеля гэтага з Сойму БНФ Алега Трусава, Міхала Ткачова, Міхала Чарняўскага і інш.) — гэта была Сацыял-дэмакратычная Грамада. Пазьней, пасьля сьмерці Ткачова, агентура ўсё ж пашчыпала яе на кавалкі.

Пасьля расколу Фронту ўсе малыя партыі (уключна з новакамуністамі) ўзьняліся пры дапамозе Захаду і стварылі гэтак званую «аб'яднаную апазыцыю», маразм якой грамадзтва назірае па сёньняшні дзень. А ўвогуле ў палітыцы няма «аб'ектыўных» працэсаў. Палітыка — гэта воля і сіла. Аб'ектыўныя працэсы могуць быць у грамадзтве.

**«БНФ нідзе наўпрост не фармуляваў пра дасягненьне ўлады як задачы»**

**Цыганкоў: БНФ не ўдалося ўзяць уладу ў 91-ым, далей у 94-ым гадах. Чаму так адбылося? Ці гэта было непазьбежным вынікам тагачаснага ўзроўню разьвіцьця беларускага грамадзтва ці былі дапушчаныя нейкія памылкі ў тактыцы ці стратэгіі кіраўніцтвам Фронту?**



Мітынг БНФ у жнівеньскія дні 1991 г. Выступае Зянон Пазьняк (24.08.1991).

**Пазьняк:** Як гэта не падасца камусьці дзіўным, але БНФ нідзе наўпрост не фармуляваў пра дасягненьне ўлады як задачы. Тое як бы само сабой разумелася і было за кадрам. (Гэта дыктавалася тактыкай замаўчаньня, каб не даваць падставы камуністам для юрыдычных інсінуацыяў.) Задачы, сфармуляваныя Фронтам, мусілі рэалізоўвацца ў працэсе змаганьня, яшчэ ня маючы ўлады. Гэта сувэрэнітэт і незалежнасьць, ліквідацыя камуністычнай сыстэмы, высьвятленьне праўды пра Чарнобыль, стварэньне антычарнобыльскага заканадаўства і ратаваньня здароўя нацыі, дзяржаўнасьць беларускай мовы, вяртаньне нацыянальнай сымболікі ў дзяржаўны ўжытак, дэмакратыя, прыватызацыя, увядзеньне беларускіх грошай, стварэньне беларускага войска, рынкавыя рэформы.

За тры гады неверагоднага змаганьня (да 1992-га) практычна ўсё гэта цалкам ці часткова ўдалося ажыцьцявіць. Гэта ёсьць палітычны подзьвіг БНФ. І адна з прычын такога подзьвігу — добрая палітыка Фронту, якая, дзякуючы ахвярнасьці фронтаўцаў і дысцыпліне, пазьбегла памылак. Памылкі рабілі ўсясільныя тады камуністы, часам проста дурацкія (таму і прайгралі). Лапідарна кажучы, гэта была тады агромістая, магутная чарада бараноў, кіруемая бяздарамі, у якіх было ўсё: войска, фінансы, СМІ, спэцслужбы — уся ўлада. Не было толькі ідэі, за якую можна было ахвяравацца (свая скура — гэта не ідэя).



Мітынг БНФ у жнівеньскія дні 1991 г. Выступае Сяргей Навумчык

Дарэчы, прапаганду пра нібыта «памылкі» Фронту прыдумалі ворагі БНФ, якія дапамагалі ўсталёўваць дыктатуру.

Цяпер пра ўладу. Чаму нацыянальныя прыбалтыйскія франты пасьля краху СССР лёгка пераналі ўладу, а франты ў Беларусі і Ўкраіне — не пераналі? Адказ просты. Таму што камуністычная ўлада ў прыбалтыйскіх краінах была нацыянальнай, імкнулася да сувэрэнітэту і не перашкаджала ў гэтым сваім франтам (нават спрыяла). Улада і сувэрэнітэт там не былі грамадзкай праблемай, а толькі пытаньнем часу.

У Беларусі камуністычная партыя-ўлада была зацята антыбеларуская, партызанска-энкавэдысцкая, якая вытаптала, вынішчыла ўсё беларускае ў грамадзкім жыцьці: і культуру, і школу, і мову, глядзела толькі на Маскву і нават слова такога, як «сувэрэнітэт», ня ведала.



Мітынг БНФ у жнівеньскія дні 1991 г. Выступае Валенцін Голубеў.

Вось з гэтай антынацыянальнай уладай мусіў найперш змагацца за волю, мову, незалежнасьць і сувэрэнітэт Беларускі Народны Фронт (Прыбалтыка? Нам бы іхнія праблемы!) Але адна справа змагацца з такой уладай за інтарэсы і другая — змагацца з гэтай уладай за ўладу. Сілы несувымерныя.

Уладу камуністычная намэнклятура пакінула за сабой, заплаціўшы за яе дарагую цану: пад ціскам БНФ адмовілася ад камуністычнай партыі і згадзілася на незалежнасьць Беларусі. Зьнесьці намэнклятуру з улады можна было толькі збройнай альбо вялікай масавай грамадзкай сілай. Такой сілы не было.

1994 год. Лукашэнка — гэта прафэсійна распрацаваны маскоўскі праект (ён і сам гэта пацьвярджае). Праект, аднак, меў істотны недахоп, у выніку якога Фронт перамагаў бы ў другім туры галасаваньня. Чаму тое не сталася, ужо сто разоў гаворана і перагаворана (і ня толькі мной) і напісана.

Шчыра скажу (і прасіў бы не крыўдаваць), мяне часам зьдзіўляюць бясконцыя (ужо 20 гадоў) адны і тыя ж пытаньні, чаму Фронт не ўзяў уладу ў 1991-м і г.д. Хаця тут, па сутнасьці, пытаньня няма. Усё відавочна.

**«Гэта паразытныя структуры, якія спажываюць заходнюю падтрымку і займаюцца палітычнай імітацыяй»**

**Цыганкоў: Чаму БНФ не ўдалося захаваць сваю еднасьць, што прывяло да расколу ў шэрагах БНФ у 1999-ым годзе? Ці быў гэта аб'ектыўны працэс альбо вы тлумачыце яго больш нейкімі асабовымі, суб'ектыўнымі прычынамі?**

**Пазьняк:** На гэтае пытаньне я ўжо фактычна адказаў у пачатку. Зазначу толькі, што пад акупацыйным рэжымам, калі планамерна нішчыцца нацыя, культура, грамадзкая супольнасьць, «аб'ектыўных» працэсаў у партыі, якая супрацьдзейнічае такой палітыцы, не існуе. Тут, практычна, усё абумоўлена вонкавымі прычынамі.

**Цыганкоў: Як вы ацэньваеце стан і пэрспэктывы партыі, якую вы цяпер узначальваеце — КХП-БНФ? Часта па многіх пытаньнях партыя займае пазыцыю, адрозную ад іншых беларускіх апазыцыйных партыяў, якіх і вы асабіста часта крытыкуеце. Чаму так адбываецца?**

**Пазьняк:** На гэтае пытаньне я ўжо таксама ў агульным адказаў. А вось «чаму так адбываецца?» — адказ таксама просты. Таму што мы ёсьць беларускай адраджэнскай дэмакратычнай партыяй, якая стаіць на ідэалах БНФ, сыходзіць з нацыянальных інтарэсаў нашай краіны, нашага народу, і адлюстроўвае беларускую нацыянальную палітыку.

Тыя, якіх вы назвалі «беларускія апазыцыйныя партыі» — нацыянальную палітыку не адлюстроўваюць і нацыянальнай палітыкай не займаюцца. Гэта паразытныя структуры, якія спажываюць заходнюю падтрымку і займаюцца палітычнай імітацыяй дзеля апраўданьня свайго існаваньня. Цалкам магчыма, што пры зьмене ўлады іх прыйдзецца зьмятаць разам з рэжымам.

***(Радыё Свабода 19 кастрычніка 2013 г.)***
http://www.svaboda.org/content/article/25141524.html

# АДРАДЖЭНЬНЕ

Адраджэньнем называецца ўнівэрсальны палітычны накірунак акупаванай (прыгнечанай) нацыі (народа) у змаганьні за свабоду і незалежнасьць. Вылучаецца як шырокі грамадзка-культурны і палітычны рух, які ставіць задачу адрадзіць усё разбуранае акупантамі (прыгнятальнікамі), найперш вярнуць афіцыйнае ўжываньне нацыянальнай мовы, аднавіць нацыянальны тэатр, мастацтва, літаратуру, эканамічную і палітычную дзейнасьць і на гэтым грунце сьцьвердзіць нацыянальную ідэю як аб'яднаўчы чыньнік народа (нацыі) на шляху да стварэньня незалежнай дзяржавы.

Адраджэньне – гэта мірны мэтад палітыкі, які прадугледжвае здабыцьцё свабоды шляхам ціску, пратэстаў і дамоўленасьці. Пры немагчымасьці дасягненьня мэты шляхам дамоўленасьці і пры збройных рэпрэсіях імпэрскага (акупацыйнага) боку рух Адраджэньне мог перарастаць ва ўзброеную барацьбу так, як здарылася тое, напрыклад, у 1917-20 гадах у Расейскай імпэрыі пры ўладзе бальшавікоў. Збройна мусілі змагацца ўвесь Каўказ, Эстонія, Беларусь, Украіна, Польшча. І толькі Фінляндыя вызвалілася шляхам дамовы.

Адраджэньнем называўся Беларускі Народны Фронт, які ў 1991 годзе прывёў Беларусь да здабыцьця Незалежнасьці. Адраджэньнем можа называцца таксама чыста культурніцкі рух, які ўзьнікае ў залежнасьці ад абставінаў.

Імпэрскай захопніцкай альтэрнатывай нацыянальна-вызвольнай палітыцы Адраджэньня зьяўляецца палітыка „статус-кво".

*Ліпень 2013 г.*

***Зянон Пазьняк***

# АДРАДЖЭНЬНЕ БЕЛАРУСІ

***Правілы Адраджэньня***

– Найвялікшай каштоўнасьцю Беларускага Адраджэньня ёсьць **Беларуская мова.**

– Найвялікшай мэтай Беларускага Адраджэньня было і ёсьць стварэньне незалежнай, вольнай **Беларускай дзяржавы.**

– Базай Беларускага Адраджэньня ёсьць **Беларускі народ** у межах свайго этнічнага расселеньня і **гісторыя Вялікага Княства Літоўскага** – сярэднявечнай Беларускай дзяржавы.

– Ідэяй Беларускага Адраджэньня ёсьць **Беларуская Нацыянальная ідэя**, дэкляраваная і сьцверджаная Беларускай Народнай Рэспублікай у 1918 годзе і рэалізаваная Беларускім Народным Фронтам у 1991 годзе.

– Сымваламі Беларускага Адраджэньня ёсьць **Бел-Чырвона-Белы Сьцяг** і **Гэрб Пагоня**.

– Гістарычным гімнам Беларускага Адраджэньня ёсьць гімн БНР **„Мы выйдзем шчыльнымі радамі"**; духоўным гімнам Адраджэньня ёсьць гімн **„Магутны Божа"**.

– Ідэалёгіяй Беларускага Адраджэньня ёсьць культурна-нацыянальнае, духоўнае, палітычнае **адраджэньне і разьвіцьцё Беларускай нацыі.**

***Прынцыпы Адраджэньня***

– Адраджэнцы шануюць Беларускі народ, у якім бы стане ён ні знаходзіўся.

– Адраджэнцы шануюць Беларускую мову.

– Адраджэнцы шануюць волю, праўду і справядлівасьць.

– Адраджэнцы шануюць сям'ю і правы нацыі на нармальнае існаваньне людзей, згодна з прыродай чалавека, нацыянальнымі, духоўнымі, культурнымі і маральнымі традыцыямі.

– Падтрымка і захаваньне дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі ёсьць бясспрэчным грамадзка-палітычным прыярытэтам усіх адраджэнцаў, незалежна ад палітычнай формы ўлады ў краіне.

– Адраджэнцы падтрымліваюць дэмакратычную форму ўлады; шануюць забесьпячэньне культурна-нацыянальных патрэбаў людзей усіх нацыянальнасьцяў, што знаходзяцца ў Беларусі пры ўмове іх лаяльнасьці да Беларускай нацыі, культуры і дзяржавы.

*Ліпень 2013 г.*

***Зянон Пазьняк***

# ДАКУМАНТЫ ПЕРШАГА (УСТАНОЎЧАГА) ЗЬЕЗДА БНФ

Друкуем матэр'ялы 1-га Устаноўчага Зьезду БНФ, які адбыўся 24-25 чэрвеня 1989 г. у Вільні ў Віленскім палацы прафсаюзаў. Матэрыялы былі выкладзеныя ў «Навінах БНФ» № 7 за 6 ліпеня 1989 г. Тут сканаваныя адбіткі з гэтай, архіўнай цяпер, першай газэты Фронта.

Чытаньне матэр'ялаў пераносіць нас у атмасфэру таго ўзьнёслага часу змаганьня за вольную Беларусь, калі над усімі намі веялі ветры свабоды і вялікіх надзей.

У газэце пададзены рэзалюцыі Зьезда, пэрсанальны склад 1-га Сойму БНФ і статыстыка Зьезду, якая адлюстроўвала статыстыку ўсяго Фронту, і паказвае, што БНФ – гэта быў сапраўдны Беларускі Народны рух, у якім удзельнічаў увесь перадавы народ, той народ, які ствараў вытворчасьць, навуку, гаспадарку, мастацтва і культуру, абрабляў зямлю. Гэта былі патрыятычныя, актыўныя, адданыя дзеля Айчыны людзі, якія набліжалі новую вольную Беларусь.

***З. Пазьняк***

# НАВІНЫ



БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ ЗА ПЕРАБУДОВУ "АДРАДЖЭНЬНЕ"
7'1989 6 ліпеня.

---

## 24--25 ЧЭРВЕНЯ Ў ВІЛЬНІ АДБЫУСЯ УСТАНОУЧЫ ЗЬЕЗД БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ "АДРАДЖЭНЬНЕ"

"Можна жыць у дупле дрэва і быць шчасьлівым", -- сказаў мысьляр. Але каб быць такім шчасьлівым, трэба ня ведаць, што вакол дупло. Трэба ня бачыць лейкеміі дзяцей пасьля Чарнобыля. Трэба не заўважаць, што прадукты й тавары становяцца ў чаргу насустрач нашай чарзе, а вакол -- пустка. Трэба не прыкмячаць, што нашым жыцьцём кіруюць недалёкія й некультурныя функцыянеры, для якіх што Беларусь -- што Сыктыўкар, што Рэспубліка -- што нарыхтоўчая кантора, што народ -- што статак, -- усё адно.

Мы так доўга былі "шчасьлівыя"! Мы так доўга ня бачылі, што вакол дупло! Мы так доўга й пакорліва маўчалі! Ажно досыць.

Бачыць, чуць, гаварыць, яднацца, працаваць разам!

Восем месяцаў мінула, як у Менску ўтварыўся Аргкамітэт БНФ. Восем месяцаў цяжкой работы. Восем месяцаў барацьбы. Восем месяцаў мітынгаў і маніфэстацыяў. Восем месяцаў пошуку шляхоў для народу й Бацькаўшчыны -- шляхоў з крызісу, з занападу, з дупла. Восем месяцаў шальмаваньня БНФ у партыйным друку. Восем месяцаў, як адзін дзень...

Нас яшчэ мала, дзесяткі тысяч. Але мы ведаем, што ніхто больш на гэтай зямлі ня возьме на сябе адказнасьць за будучыню Бацькаўшчыны. І таму нас 10 мільёнаў. Мы -- беларускі народ.

## ЗВАРОТ УСТАНОУЧАГА ЗЬЕЗДУ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ "АДРАДЖЭНЬНЕ"

### Да грамадзян Беларусі

"Браткі мілыя! Дзеці зямлі-маткі маёй!"

Так дзевяноста гадоў таму зьвяртаўся да суайчыньнікаў Францішак Багушэвіч. Ён заклікаў нас шанаваць сваю зямлю і мову, продкаў і звычаі. А шанаваць гэтыя сьвятыя каштоўнасьці -- значыць быць гаспадаром на сваёй зямлі.

24--25 чэрвеня 1989 году наш Устаноўчы зьезд афіцыйна аформіў стварэньне БНФ за перабудову "Адраджэньне".

БНФ -- гэта масавы грамадска-палітычны рух. Ён ставіць сваёй мэтаю пераўтварэньне грамадства і аднаўленьне самабытнасьці беларускай нацыі на прынцыпах дэмакратыі і гуманізму, стварэньне ўмоваў свабоднага, паўнакроўнага разьвіцьця культуры як карэннага насельніцтва, так і нацыянальных меншасьцяў Беларусі. БНФ будзе дзейнічаць у рамках Канстытуцыі БССР і ў адпаведнасьці з прынятымі Зьездам Праграмай і Статутам.

БНФ заклікаюы абараняць інтарэсы працоўных, будзіць лю-

дзей да сацыяльнай актыўнасьці, разьвіваць іх палітычную, прававую культуру і нацыянальную сьвядомасьць, забясьпечыць незваротнасьць перабудовы ў БССР.

Устаноўчы зьезд Беларускага Народнага Фронту адбыўся ў сталіцы братняе Літвы -- і дарагім беларускаму сэрцу горадзе -- Вільні. Законна ўзьнікае пытаньне: чаму ж ня ў Менску? Гэта ня нашая віна. Гэта віна афіцыйных кіраўнічых органаў Рэспублікі, якія ня хочуць чуць і бачыць дэмакратычны рух. Гэта й ня выклік, гэта -- змушанае выйсьце. Кіраўніцтва Рэспублікі дагэтуль перасьледуе ўсялякія праявы "вальнадумства", усялякія свабодалюбівыя павевы. Ягоныя метады -- шальмаваньньне ў друку ўдзельнікаў дэмакратычнага руху ў БССР, газы і дубінкі 30 кастрычніка мінулага году. *Пасьлядоўна ідучы сваім* выпрабаваным шляхам, менская чыноўная бюракратыя адмовіла Зьезду БНФ у памяшканьні. Сілы застою чакалі, што мы пойдзем па шляху канфрантацыі. Але мы не шукаем канфрантацыі. Нам патрэбная спакойная і канструктыўная праца дзеля дабра Бацькаўшчыны. Канфрантацыю выбіраюць тыя, хто ў сапраўдным народаўладзьдзі бачыць пагрозу для сябе.

БНФ "Адраджэньне" заклікае наш мудры і мужны, разважлівы і гаспадарны народ далучыцца да руху за перабудову, пайсьці па сьветлым шляху адраджэньня ў дэмакратычную будучыню, у вечнае і годнае жыцьцё на сваёй зямлі. Мы ня маем больш маральнага права трываць засільле бяздушнага і хцівага да ўлады чынавенства, ведамстваў, якім абыякавы лёс зямлі, лёс народу. Гэта праз іх мы маем Чарнобыль з усімі яго жахлівымі наступствамі. Адзіны шанц, каб выжыць і мець перспектыву -- гэта перадача ўсяе паўнаты ўлады народу.

Неўзабаве адбудуцца выбары ў Вярхоўны Савет Рэспублікі і мясцовыя Саветы. Суайчыньнікі! Наша бліжэйшая задача зрабіць усё, каб у Саветах апынуліся людзі, вартыя высокае годнасьці народных выбраньнікаў. Памятайце і пра галоўную нашую мэту -- стварыць дэмакратычнае грамадства і моцную эканоміку, адрадзіць нацыянальную культуру, усталяваць суверэнітэт, стаць народам, які будзе пачувацца вольным і раўнапраўным у агульначалавечай сям'і.

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

(Зварот прыняты Зьездам адзінагалосна.)

## РЭЗАЛЮЦЫІ (УХВАЛЫ) УСТАНОЎЧАГА ЗЬЕЗДУ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ "АДРАДЖЭНЬНЕ"
(выпраўленыя з улікам прапановаў дэлегатаў)

I

### Аб пераадоленьні вынікаў Чарнобыльскай катастрофы

У выніку Чарнобыльскай катастрофы палова тэрыторыі Беларусі моцна заражаная радыянуклідамі. Пятая частка ворнай зямлі Рэспублікі непрыдатная для выкарыстаньня. Стала немагчыма ня толькі весьці гаспадарчую дзейнасьць, але і жыць у Брагінскім, Буда-Кашалёўскім, Краснапольскім, Нараўлянскім, Хойніцкім, Чэрыкаўскім ды іншых раёнах Рэспублікі. Заражанасьць у шмат якіх мясьцінах перавышае 15 Кюры на квадратны кіламетр, а месцамі дасягае 200 Кюры і больш. У многіх паселішчах людзі набралі за тры гады да 25 бэр. Расьце колькасьць ракавых захворваньняў, зьніжаецца імунітэт да гэтак званых звычайных хва-

робаў. Пагроза генафонду нацыі зьяўляецца жахлівым фактам. Вынікі катастрофы, калі браць пад увагу аддаленую перспектыву, можна параўнаць толькі са сталінскім і гітлераўскім генацыдам. Яны пагражаюць існаваньню беларусаў на Зямлі.

У тым, што сотні тысячаў нашых грамадзян жывуць ва ўмовах, непрыдатных для жыцьця, вінаваты перш за ўсё Урад Беларускай ССР. Своечасова не ацаніўшы сітуацыю, усяляк прыхарошваючы становішча, ён не запатрабаваў ад Ураду СССР сродкаў на поўнае адсяленьне людзей з заражаных раёнаў і паселішчаў. Ён нават адмовіўся ад прапановы Ураду Савецкага Саюза цалкам выселіць Брагінскі раён. Кіраўнікі Рэспублікі зрабілі ўсё, каб дасьведчаныя народныя дэпутаты ня трапілі на нараду з удзелам Старшыні Савета Міністраў СССР, што праводзілася ў час работы Зьезду народных дэпутатаў СССР і была прысьвечаная чарнобыльскай праблеме.

Устаноўчы зьезд Беларускага Народнага Фронту за перабудову "Адраджэньне" расцэньвае дзеяньні Ураду БССР як злачынства супраць сёньняшніх і наступных пакаленьняў народу Беларусі, як жаданьне кіраўніцтва БССР спадабацца кіраўніцтву Савецкага Саюза, як імкненьне па-ранейшаму ствараць фальшывы вобраз сытай і задаволенай Беларусі ў вачах савецкай і сусьветнай грамадскасьці.

Устаноўчы зьезд БНФ "Адраджэньне" патрабуе ад Урадаў БССР і СССР прыняць неадкладныя меры дзеля выратаваньня тых, каго яшчэ можна выратаваць, дзеля аблягчэньня пакутаў тых, хто ўжо хворы.

Улічваючы тое, што Урад БССР і розныя саюзныя ведамствы хаваюць аб'ектыўную інфармацыю аб сітуацыі ў заражаных раёнах, Устаноўчы зьезд Беларускага Народнага Фронту за перабудову "Адраджэньне" патрабуе зьняць сакрэтнасьць зь інфармацыі пра стан радыяцыі і вынікі Чарнобыльскай катастрофы на Беларусі. Павінна быць поўная адкрытасьць і поўная магчымасьць веданьня пра радыяцыйнае становішча, пра заражанасьць прадуктаў, паветра, зямлі, вады, расьлін, жывёл, людзей для кожнага жыхара Рэспублікі. Народ павінен ведаць пра свой лёс, пра будучыню сваіх дзяцей і мець магчымасьць ратавацца.

Трэба стварыць усе ўмовы для паратунку насельніцтва. Дзеля гэтага неабходна патрабаваць сродкі і фондавыя матэрыялы з адказных за трагедыю саюзных міністэрстваў, каб ажыцьцявіць адсяленьне людзей з моцна заражаных раёнаў Магілёўскай і Гомельскай вобласьцяў у адносна чыстыя раёны Віцебскай вобласьці (якая абязьлюдзела ў выніку бюракратычнай гаспадарчай палітыкі) і ў іншыя аддаленыя раёны Беларусі. Пры гэтым насельніцтва з пацярпелых раёнаў не павінна дэпартавацца за межы Рэспублікі. Народ павінен разумець гэта і не паддавацца вынарадаваньню нацыі. Землі, зь якіх часова адселеныя жыхары, павінны быць пад строгім рэспубліканскім кантролем і міжнародным наглядам, мець асаблівы ахоўны юрыдычны статус. Рэжым утрыманьня іх вызначаецца Урадам Беларусі.

Неабходна тэрмінова спыніць пасыланьне моладзі і дзяцей на сельскагаспадарчую і любую іншую працу ў радыяцыйна заражаныя раёны Беларусі.

Уся Беларусь павінна стаць бязьядзернай зонай.

Кіраўнікі БССР, што на працягу 1986–89 гадоў давялі Рэспубліку і народ да такога бядотнага стану і не запабеглі вынікам Чарнобыльскай трагедыі, павінны панесьці адказнасьць перад законам, гісторыяй і людзьмі, перад пакаленьнем.

Устаноўчы зьезд БНФ за перабудову "Адраджэньне" зьвяр-

таецца да ўсіх народаў сьвету, да ўсіх дабрачынных арганізацыяў з просьбай праявіць салідарнасьць зь беларускім народам, дапамагчы яму медыцынскай тэхнікай, медыкаментамі, грашыма для лячэньня хворых, для будаўніцтва жыльля тым, хто будзе адселены. Зьезд спадзяецца на дапамогу беларусаў, якія жывуць за мяжой, на садзеяньне кіраўніка Беларускае Аўтакефальнае Царквы архіепіскапа Мікалая і апостальскага візітатара для беларусаў-каталікоў айца Аляксандра Надсона, і даручае Сойму падрыхтаваць адпаведныя звароты. Зьезд мяркуе, што Урад Беларускай ССР не адмовіцца ад такое дапамогі.

Установчы зьезд БНФ за перабудову "Адраджэньне" выказвае сваё спачуваньне народам Украіны і Расіі, якія таксама пацярпелі ад Чарнобыльскае катастрофы, і выказваецца за супольныя дзеяньні дзеля пераадоленьня яе вынікаў.

## Зварот да народаў СССР і краінаў-сяброў ААН

Зьезд Беларускага Народнага Фронту зьвяртаецца да народаў СССР і народаў сьвету з просьбай аб дапамозе ў ліквідацыі наступстваў Чарнобыльскай катастрофы.

Цяперашняя сітуацыя не дазваляе вырашаць праблемы, узьніклыя ў сувязі з Чарнобыльскай аварыяй, без дапамогі міжнароднай супольнасьці.

Гэтая дапамога можа быць выяўленая ў пастаўцы радыяметрычнага і дыягнастычнага медыцынскага абсталяваньня, неабходных медыкаментаў і ў любой іншай дапамозе па ліквідацыі наступстваў працяглага радыяцыйнага ўзьдзеяньня.

Міжнародная салідарнасьць будзе значыць для беларускага народу шанц на выжываньне.

## Аб палітычным плюралізме

Артыкул 21 Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, прынятай Генеральнай Асамблеяй ААН, падпісанай СССР і БССР, абвяшчае: "Кожны чалавек мае права прымаць удзел у кіраваньні сваёй краінай непасрэдна, або праз свабодна абраных прадстаўнікоў... Воля народа павінна быць асновай улады ўраду". БНФ канстатуе, што на Беларусі, як і наогул у СССР, існуе манаполія на палітычную ўладу адной партыі, выканаўчы апарат якой зросься зь дзяржаўным і ў значнай ступені з гаспадарчым апаратам, заканадаўчая ўлада падменена ўладаю выканаўчай. У гэтых умовах ня могуць быць задаволеныя інтарэсы і патрэбы розных сацыяльных, прафесійных, нацыянальных, рэлігійных і іншых групаў грамадства. Задавальненьне і гарманізацыя інтарэсаў грамадства шляхам палітычнага плюралізму -- неабходнасьць і заканамернасьць грамадскага развіцьця і адзіная эфектыўная альтэрнатыва таталітарызму.

БНФ лічыць, што для пераходу да палітычнага плюралізму неабходна:

1. Скасаваць 6-ы артыкул Канстытуцыі БССР, які замацоўвае манаполію КПСС на палітычную ўладу, і прапануе правесьці па гэтым пытаньні агульнанародны рэферэндум.

2. Ажыцьцявіць рэальнае разьдзяленьне заканадаўчай, выканаўчай і судовай улады, а таксама юрыдычна забясьпечыць існаваньне незалежных сродкаў масавай інфармацыі.

3. Скасаваць ці адпаведным чынам зьмяніць усе законы і ўказы, якія забясьпечваюць каму б там ні было манаполію на палітычную ўладу (Закон аб выбарах народных дэпутатаў СССР, дапаўненьні да Канстытуцыі СССР, прынятыя ў лістападзе 1988 г., указы аб мітынгах і дэманстрацыях, аб сьпецвойсках, аб кантролі над выданьнем друкаваных органаў і інш.).

4. Прыняць закон аб палітычных арганізацыях. Надаць усім незалежным грамадскім структурам, дзейнасьць якіх не супярэчыць Канстытуцыі, роўныя з афіцыйнымі структурамі правы на ўдзел у палітычным працэсе. Для гэтага яны павінны бесперашкодна атрымліваць статус юрыдычнай асобы з належнымі правамі і абавязкамі.

5. Неадкладна прыняць закон аб выбарах народных дэпутатаў БССР і ў мясцовыя Саветы народных дэпутатаў, які забясьпечваў бы роўныя правы ўсім грамадскім групам для ўдзелу ў выбарах і ў прадстаўленьні сваіх інтарэсаў у Саветах, а таксама закон аб рэферэндумах, які забясьпечваў бы ўсім грамадзянам права непасрэднага ўдзелу ў палітычным працэсе.

БНФ падкрэсьлівае, што палітычны плюралізм ня зводзіцца толькі до шматпартыйнасьці.Пытаньне ставіцца шырэй: даступнасьць да кіраваньня на ўсіх узроўнях сацыяльнай арганізацыі грамадства павінна быць забясьпечана ўсім палітычным партыям, народным рухам, прафесійным саюзам, грамадскім аб"яднаньням, творчым і навуковым асацыяцыям, розным канфесіям і інш., а таксама кожнаму грамадзяніну.

## Аб праекце Канстытуцы БССР

Даручыць Сойму ўтварыць камісію па распрацоўцы альтэрнатыўнага праекту Канстытуцыі БССР і вынесьці яго на грамадскае абмеркаваньне.

## Аб міжнацыянальных адносінах на Беларусі

Беларускі Народны Фронт уважае, што галоўнае пытаньне міжнацыянальных адносінаў на Беларусі -- гэта лёс беларускай нацыі. Нацыя, упэўненая ў сваёй будучыні, з разуменьнем і глыбокай павагай ставіцца да праблемаў нацыянальных меншасьцяў, падтрымлівае іх нацыянальна-культурныя памкненьні. На Беларусі няма аб"ектыўных падставаў для міжнацыянальнай варожасьці, і Беларускі Народны Фронт зробіць усё, каб захаваць і ўмацаваць найвышэйшую нашую каштоўнасьць -- традыцыйную ўзаемапашану, цярпімасьць адзін да аднаго. Толькі ў адзінстве мы непераможныя. БНФ выказвае абурэньне тым, што ідэалагічнае кіраўніцтва БССР, заяўляючы аб сваім інтэрнацыяналізме, са старонак сваіх выданьняў, у прыватнасьці "Политического собеседника" і "Вечернего Минска", зьневажае нацыянальныя і дэмакратычныя рухі на Беларусі і ў іншых рэспубліках, публікуе матэрыялы, скіраваныя на распальваньне міжнацыянальнай варожасьці, імкнецца выклікаць недавер да народаў Эстоніі, Латвіі і Літвы, да Народных Франтоў Прыбалтыкі. Ёсьць сілы, якія пад выглядам барацьбы з ідэалагічным праціўнікам спрабуюць убіць клін паміж беларусамі і прадстаўнікамі нацыянальных меншасьцяў, правакаваць узаемную варожасьць.

БНФ "Адраджэньне" змагаецца зь любымі праявамі зьняваґі

6.

народаў, паклёпу на іх, адмяжоўваецца ад любых антысеміцкіх выхадак. Пры Сойме БНФ ствараецца камісія па міжнацыянальных дачыненьнях, якая будзе выкрываць дэзінфармацыю і тэндэнцыйнасьць у асьвятленьні нацыянальнага пытаньня, спрыяць паразуменьню і згодзе.

## Аб свабодзе сумленьня і беларускай мове ў рэлігійным жыцьці на Беларусі

БНФ лічыць неабходным: уключэньне ў Канстытуцыю Рэспублікі цьвёрдых гарантыяў дасягненьня і захаваньня сапраўднай свабоды сумленьня чалавека, рэлігійнай талерантнасьці, раўнапраўя веравызнаньняў, а таксама вернікаў і атэістаў; выступае за стварэньне жыцьцяздольных адміністрацыйна-духоўных цэнтраў і структур усіх традыцыйных для Беларусі канфесій -- як хрысьціянскіх, так і не хрысьціянскіх, -- за свабоднае функцыянаваньне іх абшчын, навучальных і іншых установ, кляштараў і місіяў, органаў друку.

БНФ выказваецца за паступовы пераход набажэнстваў і рэлігійнай дзейнасьці ў Рэспубліцы на беларускую мову, асабліва ў хрысьціянскіх канфесіях, не выключаючы магчымасьці выкарыстаньня і іншых моваў у рэлігійнай практыцы там, дзе гэта дыктуецца нацыянальным складам вернікаў.

БНФ адзначае, што гвалтоўная ліквідацыя ў 1839 і 1946 гг. уніяцтва абмежавала свабоду веравызнаньня жыхароў Беларусі, разьяднала народ, пазбавіла рэлігійнае жыцьцё Краю яго нацыянальнай асновы. Адсутнасьць такой асновы і сёньня не спрыяе адзінству нацыі і адмоўна ўзьдзейнічае на яе духоўны стан.

БНФ падтрымлівае патрабаваньні рэлігійных арганізацыяў і групаў вернікаў аб звароце ім у прыдатным стане ўсіх забраных некалі і зьнявечаных дзяржавай храмаў і іншай маёмасьці, аб будаўніцтве новых храмаў у адпаведнасьці з канкрэтнымі патрэбамі.

БНФ стаіць за вяртаньне да агульначалавечай духоўнай гуманістычнай маралі, за шанаваньне духоўных звычаяў народа, лічыць неабходным патрабаваць ад уладаў афіцыйна прызнаць Вялікдзень і Каляды (Народзіны Хрыста) грамадскімі духоўнымі сьвятамі па праваслаўнай і каталіцкай традыцыях; дзень памяці Кірылы і Мяфодзія і Дзень Задушны (Восеньскія "Дзяды").

## Аб беларускай нацыянальнай сімволіцы

Беларускія старажытныя нацыянальныя сімвалы -- гістарычныя гербы гарадоў, земляў, аб'яднаньняў, а найперш герб "Пагоня" і бел-чырвона-белы сьцяг -- аснова гістарычнай памяці народу, сьведчаньне яго гістарычнай самабытнасьці і неўміручасьці.

Беларускі Народны Фронт за перабудову "Адраджэньне" лічыць абсурднымі, недапушчальнымі і зьняважлівымі для нацыі памкненьні кіраўніцва БССР і міліцыі перашкодзіць і забараніць ужываньне гістарычнай нацыянальнай сімволікі беларускага народу. БНФ "Адраджэньне" выкарыстоўвае бел-чырвона-белы сьцяг і герб "Пагоня", дамагаецца стварэньня геральдычнай камісіі і прыняцьця Палажэньня пра нацыянальную, гістарычную і рэгія-

нальную сімволіку, якое замацавала б яе паўсюднае і свабоднае ўжываньне.

БНФ не праціпастаўляе нацыянальную гістарычную сімволіку дзяржаўнай. Беларускі Народны Фронт за перабудову "Адраджэньне" патрабуе ў часе грамадскіх і дзяржаўных сьвятаў вывешваць побач зь дзяржаўнай нацыянальную гістарычную сімволіку Беларусі.

### Пра дяржаўнасьць беларускай мовы

Беларускі Народны Фронт за перабудову "Адраджэньне" усімі законнымі захадамі будзе імкнуцца да вяртаньня беларускай мове статуса дзяржаўнай, які існаваў у перыяд Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага і ў першыя дзесяцігодзьдзі Савецкай Беларусі. Толькі аднаўленьне статусу дзяржаўнасьці беларускай мовы можа гарантаваць Беларусі яе нацыянальную будучыню.

У той жа час "Адраджэньне" выступае за гарантыю свабоднага функцыянаваньня моваў усіх нацыянальных меншасьцяў Беларусі, за веданьне работнікамі кіраваньня і абслугі як беларускай, так і рускай моваў.

БНФ вылучае распрацаваны ім законапраект аб дзяржаўоай мове БССР на ўсенароднае абмеркаваньне.

### Аб беларуска-літоўскіх дачыненьнях

Тысячагадовая традыцыя добрасуседства і ўзаемадапамогі паміж беларусамі і літоўцамі, даўнейшая і сучасная барацьба за ідэалы дэмакратыі і суверэнітэту -- зарука духоўнай еднасьці. У цяжкі для беларускага народу час літоўскі народ, літоўскі рух за перабудову "Саюдзіс" падаў нам руку братэрскае дапамогі.

БНФ "Адраджэньне" шчыра дзякуе "Саюдзісу", усім літоўцам за іх садзеяньне. БНФ лічыць, што гэта і ёсьць праявы сапраўднага, не казённага, а натхнёнага ідэяй свабоды і дэмакратыі інтэрнацыяналізму. БНФ перакананы, што наш супольны абавязак захаваць і даць магчымасьць культурнага разьвіцьця беларускай нацыянальнай меншасьці ў Вільні і на Віленшчыне і літоўскай нацыянальнай меншасьці на Беларусі.

Няхай вечна гучыць у нашых сэрцах і душах наш агульны гістарычны лозунг: "За нашу і вашу волю!". Жыве Беларусь! Жыве Літва!

### Аб дзейнасьці Аргкамітэту Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" і спыненьні ягоных паўнамоцтваў

1. Зьезд Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" прызнае, што Аргкамітэт, створаны 19 кастрычніка 1988 г. з мэтаю утварэньня Народнага Фронту ў падтрымку перабудовы, пасьпяхова выканаў сваю задачу.

У выніку дзейнасьці Аргкамітэту было створана звыш 500

групаў падтрымкі, распрацаваныя Праграма і Статут, праведзена падрыхтоўка Устаноўчага зьезду.

2. Зьезд Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне", які зьяўляецца вышэйшым органам руху, абвяшчае аб спыненьні дзейнасьці і скасаваньні паўнамоцтваў Аргкамітэту Беларускага Народнага Фронту.

Зьезд выказвае падзяку Аргкамітэту за зьдзейсьненую ім працу.

## Аб Статуце і Праграме Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне"

1. Зьезд, пасьля разгляду і абмеркаваньня распрацаваных Аргкамітэтам праектаў Праграмы і Статута Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне", уносіць удакладненьні ў іх тэкст.

2. Зьезд прымае Праграму і Статут Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" і абавязвае кіраўнічыя органы, а таксама групы падтрымкі зыходзіць у сваёй дзейнасьці з прынцыпаў, выкладзеных у іх.

3. Зьезд даручае Сойму стварыць камісію, якая будзе кантраляваць адпаведнасьць усіх дакументаў Народнага Фронту яго Праграме і Статуту.

4. Зьезд стварае камісію па дапрацоўцы і ўдасканаленьні Статуту.

## Аб фінансавай дзейнасьці

1. Лічыць дзейнасьць фінансавай камісіі Аргкамітэту Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" здавальняючай і зацьвердзіць усе грашовыя выдаткі.

2. Згодна са Статутам перадаць паўнамоцтвы па фінансава-гаспадарчай дзейнасьці камісіям, створаным кіраўнічымі органамі Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне".

3. Зьвярнуцца да Беларускага рэспубліканскага адзьдзяленьня Жылсацбанку СССР з просьбай адкрыць разьліковы рахунак Беларускага Народнага Фронту за перабудову "Адраджэньне".

## ● СКЛАД СОЙМУ БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ "АДРАДЖЭНЬНЕ"

1. АРЛОЎ Уладзімер, літаратар, супрацоўнік выдавецтва "Мастацкая літаратура", намесьнік старшыні таварыства "Мартыралог Беларусі", член КПСС, 35 гадоў (Менск).
2. БАЛАХОВІЧ Хрысьціна, мастачка, сябра беларускага аб'яднаньня "Сябрына" у Літве (Вільня).
3. БАНКЕВІЧ Генадзь, інжынер, супрацоўнік НВА "Гранат", старшыня Рады БНФ Фрунзенскага раёну, член КПСС, 59 гадоў (Менск).
4. БАРАДУЛІН Рыгор, літаратар, супрацоўнік выдавецтва "Мастацкая літаратура", 54 гады (Менск).
5. БЕЛАВУСАЎ Алег, кінарэжысёр, сакратар Саюза кінематаграфістаў БССР, член КПСС, 43 гады (Менск).
6. БІЧЭЛЬ-ЗАГНЕТАВА Данута, літаратарка, супрацоўніца Музея Максіма Багдановіча (філія Гарадзенскага гісторыка-археалагічнага музея), старшыня суполкі імя М.Багдановіча (Га-

родня).

7.БУЙВАЛ Валеры, кандыдат мастацтвазнаўства, супрацоўнік Мастацкага музея БССР, 33 гады (Менск).

8.БУЛАВАЦКІ Міхась, матэматык, выкладчык Магілёўскага педагагічнага інстытуту, 41 год (Магілёў).

9.БЫКАЎ Васіль, літаратар, народны дэпутат СССР, сакратар Саюзу пісьменьнікаў СССР, 65 гадоў (Менск).

10.БЯЛЯЦКІ Алесь, літаратуразнаўца, супрацоўнік Літаратурнага музея БССР, 26 гадоў (Менск).

11.ВАЙТКЕВІЧ Вячаслаў, журналіст, супрацоўнік часопіса "Мастацтва Беларусі", 48 гадоў (Менск).

12.ВОЛЬСКІ Артур, літаратар, старшыня Рады БНФ Партызанскага раёну, член КПСС, 61 год (Менск).

13.ВЯЧОРКА Вінцук, філолаг, выкладчык Менскага педагагічнага інстытуту, 28 гадоў (Менск).

14.ГАБРУСЕЎ Сяргей, інжынер-хімік, начальнік вытворчасьці сінтэтычнага валакна Магілёўскага ВА "Хімвалакно", народны дэпутат СССР, член КПСС, 43 гады (Магілёў).

15.ГАЙДУК Мікола, гісторык, літаратар, сябра Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы, 56 гадоў (Беласток).

16.ГРЫЦКЕВІЧ Анатоль, доктар гістарычных навук, прафесар, загадчык кафедры гісторыі СССР, БССР і замежных краінаў Менскага інстытуту культуры, член КПСС, 60 гадоў (Менск).

17.ГУРКОЎ Алесь, інжынер лясной гаспадаркі, старшыня суполкі "Сьвітанак" Канфедэрацыі Беларускіх Суполак, 23 гады (Менск).

18.ДРАКАХРУСТ Юры, кандыдат фізіка-матэматычных навук, супрацоўнік Інстытуту матэматыкі АН БССР, 29 гадоў (Менск).

19.ДУБАВЕЦ Сяргей, журналіст, супрацоўнік часопіса "Нёман", 30 гадоў (Менск).

20.ДУБЯНЕЦКІ Міхал, літаратар, старшыня мемарыяльнай камісіі Беларускага фонду культуры, член КПСС, 62 гады (Менск).

21.ЕМЯЛЬЯНАЎ Алесь, літаратар, супрацоўнік Саюзу пісьменьнікаў БССР, 37 гадоў (Менск).

22.ЖУРАЎЛЁЎ Аляксандр, доктар эканамічных навук, прафесар Рэспубліканскага міжгаліновага інстытуту падвышэньня кваліфікацыі кіраўнічых работнікаў і сьпецыялістаў, народны дэпутат СССР, член КПСС, 52 гады (Менск).

23.ЖЫБУЛЬ Вячаслаў, кандыдат філалагічных навук, супрацоўнік Інстытуту літаратуры АН БССР, 41 год (Менск).

24.ЗЬМІТРУК Павел, інструментальшчык Менскага аўтамабільнага заводу, 25 гадоў (Менск).

25.ІВАШКЕВІЧ Віктар, грузчык-стропальшчык Менскага міжгаліновага прадпрыемства чыгуначнага транспарту, 30 гадоў (Менск).

26.КАСКО Алесь, журналіст, супрацоўнік Берасьцейскай студыі тэлебачаньня, 37 гадоў (Берасьце).

27.КАЎКА Аляксей, кандыдат гістарычных навук, супрацоўнік Інстытуту літаратуры імя А.М.Горкага АН СССР, старшыня Таварыства беларускай культуры імя Францішка Скарыны ў Маскве, член КПСС, 52 гады (Масква).

28.КОЛАСАЎ Генадзь, інжынер-механік, супрацоўнік Інстытуту "Белсельбудпраект", старшыня Рады БНФ Цэнтральнага раёну, 30 гадоў (Менск).

29.КОНАН Уладзімер, доктар філасофскіх навук, супрацоўнік Інстытуту філасофіі і права АН БССР, член КПСС, 55 гадоў (Менск).

30. КРУКОЎСКІ Уладзімер, сябра Саюзу мастакоў БССР, супрацоўнік часопіса "Спадчына", намесьнік старшыні таварыства "Мартыралог Беларусі", 52 гады (Менск).
31. КУЗЬНЯЦОЎ Сяргей, медык, супрацоўнік Рыжскага медыцынскага інстытуту, старшыня беларускага таварыства "Сьвітанак" у Латвіі, 28 гадоў (Рыга).
32. КУЛІК Яўген, сябра Саюзу мастакоў БССР, 51 год (Менск).
33. КУПАВА Мікола, сябра Саюзу мастакоў БССР, 43 гады (Менск).
34. ЛАПКО Кастусь, кандыдат хімічных навук, выкладчык Беларускага дзяржаўнага універсітэту, 43 гады (Менск).
35. МАЛЬДЗІС Адам, доктар філалагічных навук, супрацоўнік Інстытуту літаратуры АН БССР, член КПСС, 57 гадоў (Менск).
36. МАРАЧКІН Аляксей, сябра Саюзу мастакоў БССР, выкладчык Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытуту, 49 гадоў (Менск).
37. МІХНОЎ Сяргей, кандыдат фізіка-матэматычных навук, супрацоўнік НТА "Політэхнік", сябра Рады БНФ Маскоўскага раёну, 39 гадоў (Менск).
38. МУРОГ Сяргей, настаўнік гісторыі і грамадазнаўства ў 94-й сярэдняй школе, старшыня Рады БНФ Першамайскага раёну, 28 гадоў (Менск).
39. МУХІН Георгій, наладчык станкоў з ЛПК на заводзе "Электронмаш", старшыня Рады БНФ Ленінскага раёну, 40 гадоў (Менск).
40. ПАЗЬНЯК Зянон (С т а р ш ы н я), кандыдат мастацтвазнаўства, археоляг, супрацоўнік Інстытуту гісторыі АН БССР, старшыня таварыства "Мартыралог Беларусі", 45 гадоў (Менск).
41. САДОЎСКІ Пётра, кандыдат філалагічных навук, выкладчык Менскага педагагічнага інстытуту, старшыня моўнай камісіі Беларускага фонду культуры, намесьнік старшыні Таварыства беларускай мовы, 48 гадоў (Менск).
42. САКАЛОЎ-КУБАЙ Генадзь, сябра Саюзу мастакоў БССР, выкладчык Менскага інстытуту культуры, член КПСС, 47 гадоў (Менск).
43. СЕМУХА Васіль, літаратар, супрацоўнік выдавецтва "Мастацкая літаратура", 52 гады (Менск).
44. СОБАЛЬ Мікась, слесар універсаму "Рыга", старшыня Рады БНФ Савецкага раёну, 38 гадоў (Менск).
45. СОКАЛАЎ-ВОЮШ Сяржук, літаратар, бард, загадчык літаратурнай часткі лялечнай трупы пры Беларускім дзяржаўным акадэмічным тэатры імя Я.Коласа, сябра наваполацкага экакультурнага аб'яднаньня "Сакавік", 33 гады (Віцебск, Наваполацк).
46. СУША Алесь, журналіст, супрацоўнік выдавецтва БелСЭ, 26 гадоў (Менск).
47. СЬВІСТУНОВІЧ Сымон, сябра Саюзу мастакоў БССР, 43 гады (Баранавічы).
48. СЯДОЎ Валеры, асьпірант Інстытуту філасофіі і права АН БССР, член КПСС, 37 гадоў (Менск).
49. ТКАЧОЎ Міхась (н а м е с ь н і к С т а р ш ы н і), доктар гістарычных навук, старшыня гарадзенскага аб'яднаньня "Паходня", член КПСС, 47 гадоў (Гародня).
50. ТРУСАЎ Алег, кандыдат гістарычных навук, супрацоўнік інстытуту "Белсьпецпраектрэстаўрацыя", член КПСС, 35 гадоў (Менск).
51. ЧАРНЯЎСКІ Ігар, кандытат гістарычных навук, супрацоўнік інстутуту "Белсьпецпраектрэстаўрацыя", старшыня Гарадскога бацькоўскага камітэту беларускамоўных класаў, 34 гады (Менск).
52. ЧАРНЯЎСКІ Міхась, кандыдат гістарычных навук, супрацоўнік Інстытуту гісторыі АН БССР, 51 год (Менск).

53. ЧЫЖЫК Валеры, інжынер-радыётэхнік, супрацоўнік Эстонскага тэатру драмы, старшыня грамадскай рады беларускага культурнага таварыства "Грунвальд" у Эстоніі, 43 гады (Талін).
54. ШУНЕЙКА Яўген, мастацтвазнаўца, сябра Саюзу мастакоў БССР, выкладчык Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытуту, супрацоўнік Беларускага фонду культуры, 35 гадоў (Менск).
55. ХАДЫКА Юры (н а м е с ь н і к С т а р ш ы н і), доктар фізіка-матэматычных навук, мастацтвазнаўца, супрацоўнік Інстытуту фізікі АН БССР, прафесар, член КПСС, 51 год (Менск).

## ● СКЛАД РЭВІЗІЙНАЙ КАМІСІІ

1. АРЭШКАЎ Міхась, інжынер-праграміст, супрацоўнік Інстытуту праектаваньня мікрабіялагічных прадпрыемстваў пры НВА "Белмедбіяпрам", 38 гадоў (Менск).
2. БАРТЛАЎ Лявон, сябра Саюзу мастакоў БССР, 41 год (Менск).
3. КІПЦЭВІЧ Алесь, мастацтвазнаўца, супрацоўнік Беларускага фонду культуры, 36 гадоў (Менск).
4. КАРПУК Міхась, сябра Саюзу мастакоў БССР, 59 гадоў (Менск).
5. МАРАЧКІНА Ірына, настаўніца хіміі і біялогіі, супрацоўніца Бюро прапаганды Саюзу пісьменьнікаў БССР (Менск).
6. НАЗАРЧУК Мікола, сябра Саюзу мастакоў БССР, 61 год (Менск).
7. ЧАЛЕЙ Ада, журналістка, супрацоўніца Рэспубліканскага тэлебачаньня (Менск).

## ● СТАТЫСТЫКА ЗЬЕЗДУ

Па падліках мандатнай камісіі ў рабоце Устаноўчага зьезду БНФ (на момант галасаваньня) удзельнічала 399 дэлегатаў. У зале паседжаньняў прысутнічала каля 350 гасьцей. На Зьезьдзе было акрэдытавана каля 200 журналістаў, якія прадстаўлялі буйныя сусветныя інфармацыйныя агенцтвы і сродкі масавай інфармацыі Венгрыі, Вялікабрытаніі, ЗША, Італіі, Латвіі, Літвы, Нарвегіі, Францыі, Эстоніі і Беларусі; уласныя і сьпецыяльныя карэспандэнты газет "Известия", "Комсомольская правда", "Литературная газета", "Московские новости", "Правда", "Труд"; шматлікія прадстаўнікі незалежных выданьняў.

Паводле распаўсюджаных анкетаў (на жаль, іх запоўнілі ня ўсе 100 % удзельнікаў Зьезду), сярод дэлегатаў было 62 жанчыны і 328 мужчын. Узрост: да 20 гадоў -- 4 чал., 21--25 г. -- 53 чал., 26--30 г. -- 61 чал., 31--40 г. -- 143 чал., 41--50 г. -- 87 чал., 51--60 г. -- 31 чал., больш за 60 г. -- 11 чал. Нацыянальнасьць: беларусаў -- 336, рускіх -- 36, украінцаў -- 8, яўрэяў -- 4, палякаў -- 4, яцьвягаў -- 2. Адукацыя: сярэдняя, сярэдняя сьпецыяльная -- 49, вышэйшая і няпоўная вышэйшая -- 341. Прафесія: навуковых і інжынерна-тэхнічных работнікаў -- 144, прадстаўнікоў творчых прафесій -- 78, рабочых -- 59, выкладчыкаў і настаўнікаў -- 41, студэнтаў і навучэнцаў -- 19, журналістаў -- 17, службоўцаў -- 16, медыцынскіх работнікаў -- 10, каапératараў -- 6, вайскоўцаў -- 5, працаўнік сельскай гаспадаркі -- 1, камсамольскі работнік -- 1 (у графе "прафесія" 3 чал. ўказалі: пенсіянер). Партыйнасьць: 295 беспартыйных, 57 членаў або кандыдатаў у члены КПСС, 38 камсамольцаў (у графе "партыйнасьць" некаторыя дэлегаты ўказвалі таксама: Народны

Фронт Латвii, Народны Фронт Эстонii, Дэмакратычная партыя Беларусі, "Талака"). Месца жыхарства: Менск -- 220, іншыя абласныя цэнтры -- 78, гарады і раённыя цэнтры -- 60, мястэчкі і вёскі -- 16. У рабоце Зьезду бралі ўдзел 18 дэлегатаў зь Беластоку, Вільні, Горкага, Калінінграду, Ленінграду, Масквы, Рыгі, Таліну.

Такім чынам, дадзеныя, якія сустракаюцца найбольш часта: мужчына 31--40 гадоў, беларус, з вышэйшай або няпоўнай вышэйшай адукацыяй, навуковы або інжынерна-тэхнічны работнік, беспартыйны, менчук.




*Дэманстрацыя ў Менску. Вясна 1989 г.*



*Вільня 25 чэрвеня 1989 г. Дэлегаты 1-га Зьезду БНФ ідуць да месца ўшанаваньня Кастуся Каліноўскага.*




*Мітынг БНФ. Менск, пачатак 1990-х гадоў.*




*Мандат дэлегата IV Зьезду БНФ і паштоўка да 10-годдзя Народнага Фронту.*

*Ветэранская арганізацыя БНФ каля сядзібы БНФ у Менску. Травень 1994 год.*



*Першы (Устаноўчы) Зьезд БНФ у Вільні. На трыбуне Зянон Пазьняк (25.06.1989).*

*Саракатысячны мітынг БНФ у Менску на стадыёне Дынама. Студзень 1989 г. Прамаўляе Зянон Пазьняк. Зьлева стаяць сябры Аргкамітэту БНФ Вячаслаў Жыбуль (не жыве) і Валянцін Вячорка.*

# „СТАТУС-КВО”

„Статус-кво” – гэта ідэалёгія і палітыка імпэрскіх шавіністычных сіл, накіраваная на тое, каб лічыць разбураны імі сацыяльны (нацыянальны) аб'ект (сістэму аб'ектаў) новай базавай рэальнасьцю (статус-кво), пунктам адліку для выніковых высноў.

Палітыка „статус-кво” накіравана на замацаваньне вынікаў імпэрыялістычнага разбурэньня дзеля далейшай зьмены і ліквідацыі першапачатковай сутнасьці.

„Статус-кво” – гэта русіфікатарская мадэфікацыя прынцыпаў польскай „тлустай рысы” (“грубэй крэскі”) і заходняй „рэальполітык”. „Дэмакраты” ад „статус-кво” прапануюць зыходзіць з рэчаіснасьці, якая ўтварылася і існуе на сёньняшні дзень у Беларусі ў выніку двух стагоддзяў няволі і расейскай акупацыйнай палітыкі. Гэта значыць, прыняць як зыходную пазыцыю ў нацыянальнай палітыцы тое, што за XX-е стагоддзе акупанты з усходу і захаду (расейцы і немцы) зьнішчылі шэсьць мільёнаў беларусаў, тое, што расейцы расстралялі сотні беларускіх пісьменьнікаў (бо пісалі па-беларуску), спалілі беларускія кнігі, зачынілі беларускія школы, выгналі беларускую мову з унівэрсітэтаў, расстралялі і згнаілі ў турмах беларускую інтэлігенцыю, адміністрацыю, ліквідавалі эліту нацыі, разбурылі беларускую культуру і сьвятыні, помнікі і магілы, сфальсіфікавалі нацыянальную гісторыю і так напаілі безабаронны народ русіфікатарскім атрутным імпэрскім пойлам, што й „патомак яшчэ п'яны”; разбурылі храмы і замкі, і цэлыя гістарычныя гарады – тое ўсё, значыцца, – не ў рахубу. Будзем, маўляў, зыходзіць з рэчаіснасьці, якая існуе (якую стварылі акупанты і нішчыцелі Беларусі). Будзем, маўляў, „дэмакратычнымі”.

*На стотысячным мітынгу БНФ 26 лютага 1990 года у Менску.*

Палітыка „статус-кво” рэгулярна выкарыстоўваецца рускім імпэрыялізмам пры злачыннай зьмене дэмаграфічнага альбо моўнага становішча народаў, служыць для замацаваньня русіфікацыі, акупацыі і этнацыду ў паняволеных краінах.

Савецкі камунізм, які зьнішчыў беларускую школу, забіў лепшых, прадстаўнікоў інтэлігенцыі, выгнаў беларускую мову з афіцыйнага ўжытку, прапаноўваў лічыць вынікі нацыянальнага разбурэньня аб'ектыўнай рэальнасьцю, асновай дзеля планаваньня далейшай савецкай культурна-нацыянальнай палітыкі.

Акупацыйную палітыку статус-кво выкарыстоўвае таксама антыбеларускі рэжым Лукашэнкі і некаторыя палітыкі яго „дэмапазыцыі”. Яны надзяваюць маску прагматыкаў, зьвяртаюцца да „здаровага сэнсу” і апэлююць да нацыянальнай цемры людзей, якую акупанты насаджалі 200 гадоў.

„Дэмакратыя” ад „статус-кво” ў акупанцкай інтэрпрэтацыі – гэта адмаўленьне ад свабоды, ад справядлівасьці, ад змаганьня, ад нацыянальнага разьвіцьця, гэта легітымізацыя народнай сьмерці, замацаваньне гвалту і разбурэньня.

Альтэрнатывай імпэрскай палітыцы „статус-кво” ёсьць нацыянальна-вызвольная ідэалёгія – Адраджэньне.

*Ліпень 2013 г.* ***Зянон Пазьняк***

# „АБ'ЯДНАНЬНЕ ЎСІХ ДЭМАКРАТЫЧНЫХ СІЛАЎ”

Гэта тактычны лёзунг, прыдуманы КГБ у 1990-х гадах у барацьбе зь Беларускім Народным Фронтам. Сэнтэнцыя вынікае з іншых канцэпцыяў „аб'яднаньня”, якія выкарыстоўвалі спэцслужбы яшчэ ў царскай Расеі і пры польскай акупацыі заходняй Беларусі.

Прапаганда „аб'яднаньня” зьяўлялася толькі тады, калі ўзьнікала моцная альтэрнатыўная антыакупацыйная (антыімпэрская, антыкамуністычная) сіла, якую пануючаму рэжыму трэба было аслабіць і развaліць. Тактыка „аб'яднаньня” заключалася ў стварэньні шэрагу падкантрольных арганізацыяў і партыяў, якія (праз агентуру) пачыналі кампанію „аб'яднаньня” ўсіх „дэмсілаў”, стараючыся зацягнуць у прапагандысцкі фантом Беларускі Народны Фронт. Разьлік КГБ вельмі прымітыўны: калі б Фронт пайшоў на аб'яднаньне з дробнымі арганізацыямі, то яны мелі б там права голасу нароўні з Фронтам, а праніклая, як у траянскага каня, агентура распачала б склочную і развальную працу.

Змагацца на такім узроўні з Фронтам было сьмешна і недарэчна. БНФ спакойна прааналізаваў канторскі вэрхал і ні з кім не аб'ядноўваўся. Паднятая на ногі была ўся журналісцкая агентура і навасьпечаныя дзеячы палітыкі. Усе на розныя лады крычалі, што трэба аб'яднацца ўсім „дэмсілам” і г. д.

Гэтая кампанія дапамагла, аднак, Фронту выявіць „сэксотаў” у сваіх шэрагах (усе яны тут жа праявіліся, агітуючы за аб'яднаньне з фантомамі).

Вушы канторы былі добра відаць. Кампанія „аб'яднаньне” правалілася. Фронт заставаўся маналітным і выходзіў на этап стварэньня Вызвольнага руху супраць антыбеларускага рэжыму.

Пасьля маёй эміграцыі ў 1996 годзе кантора рэанімавала зноў праваленую тактыку „аб'яднаньня ўсіх сілаў”. Істотна было тое, што цяпер на дапамогу «канторы» прыйшлі немцы (Ганс Вік) зь вялікімі брусэльскімі грашыма. У 1999 годзе яны ўсё ж такі (выкарыстаўшы нават фальсіфікацыі галасаваньня) раскалолі БНФ, і тая частка, якая адышла ад нацыянальнага Адраджэньня, „аб'ядналася” пазьней нават з камуністамі. А яшчэ пазьней новая генэрацыя канторскіх агентаў і прыстасаванцаў вытурыла з Фронту і самых раскольнікаў.

Такім чынам, калі ў палітычных дачыненьнях зьяўляецца лёзунг „аб'яднаньня ўсіх дэмакратычных сілаў”, заўсёды варта прыглядацца і прааналізаваць, бо (як правіла) гэтае „аб'яднаньне” ёсьць разбуральным прыёмам спэцслужбаў рэжыму. Але не абавязкова. Напрыклад, „дэмапазыцыя”, створаная Вікам і КГБ, рэгулярна „аб'ядноўваецца” перад выбарамі. Гэтага вымагаюць ад „дэмакратаў” найперш з Захаду, каб лягчэй кіраваць імітацыяй перадвыбарчай „барацьбы” і даваць грошы ў адны рукі, а канторы зь Менску (якая кантралюе фінансы „псэўдаапазыцыі”) лягчэй было б іх забіраць.

*3 ліпеня 2013 г.* ***Зянон Пазьняк***

**З Ь М Е С Т**




*Нумар аддрукаваны пры падтрымцы беларускай фундацыі імя Рамуальда Траўгута і на сродкі рэдакцыі.*

Беларускія Ведамасьці

Беларускае выданьне

У супрацоўніцтве зь Беларускім Выдавецкім Таварыствам ў Амэрыцы

**Рэдакцыя: Зянон Пазьняк, Галіна Палачаніна**

**Адрас рэдакцыі: 02-017 Warszawa, Al. Jerozolimskie 125/127**

**тэл./факс: (+48 22) 628 76 73**